• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

20 кастрычніка 1998 г. аўторак, № 207 (23558)

# ЗВЯЗДА





*Працяг скандалу*

## Уладзіміру Хілько прад'яўлена абвінавачанне

Быломy старшыні праўлення Ашчаднага банка Беларусі Уладзіміру Хілько, арыштаванаму пракуратурай краіны 6 кастрычніка гэтага года, прад'яўлена абвінавачанне. У прыватнасці, Уладзімір Хілько абвінавачваецца ў парушэнні арт. 167 ч. 2 Крымінальнага кодэкса Беларусі — перавышэнне ўлады ці службовых паўнамоцтваў, здзейсненае асобай, што займае адказную пасаду. Гэтым артыкулам Крымінальнага кодэкса краіны прадугледжана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 3 да 7 гадоў.

Як мы ўжо паведамлялі, экскіраўнік Ашчаднага банка абвінавачваецца ў выдачы ў 1994 -1995 гадах так званых «невяртаемых» крэдытаў. Следства пакуль не называе ні канкрэтнай сумы грошай, якія «сплылі» з Ашчадбанка па віне яго былога кіраўніка, ні кліентаў банка, якія выманілі гэтыя крэдыты.

Карэспандэнту «Звязды» стала вядома, што Уладзімір Хілько пакуль застанецца пад вартай у следчым ізалятары КДБ.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## Рубель «скаціўся» да 160 тысяч за долар...

**Заканчваўся мінулы тыдзень абнадзейліва: замест рэзкага патанення беларускага рубля на ценявым банкнотным рынку краіны назіралася лёгкае «пацяпленне», што некаторым дало падставу для аптымізму.**

Кошт долара, які ў сярэднім у чацвер даходзіў да 170 тысяч рублёў за адзін наяўны долар, к канцу працоўнага тыдня скаціўся прыкладна да 155 тысяч.

Аднак вялася пераважна скупка валюты па гэтаму курсу, а што датычыцца продажу, то ён практычна адсутнічаў. Панядзелак, праўда, унёс свае карэктывы: замест і далейшага, як меркавалася, падзення курса СКВ, апошняя зноў паднялася ў цане. На міжбанкаўскім рынку ўдзень здзяйсняліся здзелкі ў межах ад 265 да 290 тысяч рублёў за долар (пятніца трымала гэтую велічыню на адзнаках у 270—295 тысяч рублёў). Вулічныя мянялы «таксу» за USD паднялі: скупляўся долар імі па 160 тысяч рублёў.

Але многія ў гэтым не бачаць нічога дзіўнага: прыйшоў час выплаты авансаў па новай «мінімалцы»: хто ў такі адказны час будзе апускаць курс цвёрда канверсоўнай?..

**Ігар ГРЫШЫН.**

## ПРЭЗІДЭНТ ПРЫНЯЎ КІРАЎНІКА АДМІНІСТРАЦЫІ

19 кастрычніка 1998 г. А.Р.Лукашэнка прыняў з дакладам Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта М.У.Мясніковіча, які па даручэнню кіраўніка дзяржавы знаходзіўся 14-15 кастрычніка гэтага года ў Расійскай Федэрацыі.

Як паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе прэзідэнта, М.У.Мясніковіч далажыў кіраўніку дзяржавы аб выніках сустрэч і перагавораў з кіраўніцтвам Адміністрацыі Прэзідэнта Расіі, урада, Дзяржаўнай Думы і Цэнтральнага банка Расійскай Федэрацыі.

М.У.Мясніковіч далажыў А.Р.Лукашэнку аб тым, што з расійскім бокам дасягнуты дамоўленасці аб дадатковых мерах па сумеснай каардынацыі дзеянняў дзяржаўных органаў дзвюх дзяржаў з мэтай пераадолення крызісных з'яў у эканоміцы, правядзення ўзгодненай знешнепалітычнай дзейнасці і далейшага развіцця супрацоўніцтва ў рамках Саюза Беларусі і Расіі. Прэзідэнт краіны заслухаў інфармацыю аб ходзе падрыхтоўкі беларуска-расійскай сустрэчы на вышэйшым узроўні, якая адбудзецца ў бліжэйшы час.

Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта праінфармаваў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнку аб тым, што Прэзідэнт Расіі Б.М.Ельцын, кіраўніцтва Адміністрацыі Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі вітаюць развіццё рэгіянальных сувязяў і надаюць асаблівае значэнне іх дынамічнаму развіццю. М.У.Мясніковіч далажыў таксама аб тым, што расійскае кіраўніцтва з задавальненнем успрыняло вынікі нядаўняга афіцыйнага візіту Старшыні Урада Расійскай Федэрацыі Я.М.Прымакова ў Рэспубліку Беларусь і ўдзячнае А.Р.Лукашэнку за канструктыўнае рашэнне па пытаннях, што абмяркоўваліся. Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь далажыў таксама аб тым, што Старшыня Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі Г.М.Селязнёў з удзячнасцю прыняў прапанову прэзідэнта Беларусі наведаць Рэспубліку Беларусь у пачатку лістапада гэтага года.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка даручыў Савету Міністраў, Нацыянальнаму банку, Адміністрацыі Прэзідэнта актывізаваць работу ў органах дзяржаўнага кіравання Расіі па развіццю ўсебаковага супрацоўніцтва, рэалізацыі комплексу мераў па пераадоленню крызісных з'яў у эканоміцы.

**БЕЛТА.**

## ПРЭЗІДЭНТ ПРЫНЯЎ ГАЛОЎНАГА БАНКІРА КРАІНЫ

19 кастрычніка 1998 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка прыняў з дакладам Старшыню Праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь П.П.Пракаповіча.

Як паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе Прэзідэнта, П.П.Пракаповіч далажыў аб выніках перагавораў беларускай дэлегацыі з Міжнародным валютным фондам і аб мерах, што прымаюцца па прадаўжэнню перагаворнага працэсу з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі. Ён праінфармаваў аб місіі МВФ у Рэспубліку Беларусь, запланаванай на лістапад.

Кіраўніку дзяржавы было таксама даложана аб рабоце з Цэнтральным банкам Расіі па ліквідацыі вынікаў расійскага фінансавага крызісу для банкаўскай сістэмы Беларусі.

Прэзідэнт даў канкрэтныя ўказанні, што датычаць, у прыватнасці, узмацнення работы з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі, а таксама адносна ўдасканалення сістэмы разлікаў па экспартна-імпартных аперацыях паміж Беларуссю і Расіяй.

**БЕЛТА.**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПРЫНЯЎ ПАЎНАМОЦНАГА ПРАДСТАЎНІКА ПРЭЗІДЭНТА Ў ОРГАНАХ ІНТЭГРАЦЫІ

19 кастрычніка 1998 г. А.Р.Лукашэнка прыняў са справаздачай Паўнамоцнага прадстаўніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у органах інтэграцыі — намесніка прэм'ер-міністра В.Б.Далгалёва.

Як паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе прэзідэнта, В.Б.Далгалёў далажыў кіраўніку дзяржавы аб кроках новага Урада Расійскай Федэрацыі па выкананню абавязацельстваў расійскага боку ў рамках Саюза Беларусь — Расія. Было адзначана, што пасля заканчэння рабочага візіту Старшыні Ўрада Расійскай Федэрацыі Я.М.Прымакова ў Мінск ім быў падпісаны пералік даручэнняў структурам выканаўчай улады па выніках праведзеных з беларускім бокам перагавораў. У выніку двухтыднёвай работы да пасяджэння Выканкама Саюза дзвюх дзяржаў быў падрыхтаваны і вырашаны шэраг важных пытанняў супрацоўніцтва. Пасля пасяджэння Выканкама было падпісана 5 канкрэтных двухбаковых пагадненняў.

Прэзідэнт станоўча ацаніў дзеянні расійскага боку, накіраваныя на паглыбленне супрацоўніцтва ўнутры Саюза.

Кіраўнік дзяржавы зрабіў шэраг канкрэтных заўваг, якія датычаць далейшага ўдасканалення ўзаемадзеяння ў рамках Саюза дзвюх дзяржаў у шэрагу сфер. Ён, у прыватнасці, указаў на актуальную неабходнасць актывізацыі экспартных паставак у Расію.

В.Б.Далгалёў далажыў таксама аб развіцці сувязяў Беларусі з Масквой, у тым ліку аб пастаўках прадуктаў харчавання, рухавікоў для завода «ЗІЛ», аб вяртанні фінансавых сродкаў маскоўскімі банкамі.

Прэзідэнт падкрэсліў, што абавязацельствы Беларусі ў адносінах да Масквы ў 1998 годзе павінны быць выкананы безумоўна і поўнасцю. В.Б.Далгалёў у заключэнне праінфармаваў аб сваёй сустрэчы са Старшынёй Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі Г.М.Селязнёвым, на якой абмяркоўваліся пытанні падрыхтоўкі і правядзення Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі.

**БЕЛТА.**

## ДАПАМАГЧЫ ЮГАСЛАВІІ — НАШ АБАВЯЗАК ГОНАРУ, СУМЛЕННЯ І БРАЦТВА

Наша місія заключалася ў тым, каб прадэманстраваць салідарнасць з народамі Югаславіі, на месцы ацаніць і вывучыць сітуацыю, якая складваецца, і, калі запатрабуецца, вызначыцца ў канкрэтных формах магчымай падтрымкі і дапамогі. Так сфармуляваў мэту візіту дзяржаўнай дэлегацыі нашай краіны ў Югаславію яе кіраўнік — Дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь, памочнік прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы Віктар Шэйман. Кіраўнік беларускай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка, адзначыў Віктар Шэйман, лічыць, што за словамі падтрымкі і салідарнасці павінны адбыцца канкрэтныя палітычныя крокі. «Гэта наш славянскі абавязак гонару, сумлення і брацтва», — заявіў ён.



**Дэлегацыя Беларусі ўскладае вянок да мемарыялу воінам-вызваліцелям Бялграда.**

Як вядома, у саставе дэлегацыі былі прадстаўнікі органаў дзяржаўнай улады і кіравання, парламентарыі, ваенныя спецыялісты, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і сродкаў масавай інфармацыі. Праграма іх знаходжання ў гэтай краіне была вельмі насычанай. За чатыры дні кіраўнік дэлегацыі Віктар Шэйман правёў перагаворы з прэзідэнтам Югаславіі Слабаданам Мілошавічам, кіраўніцтвам югаслаўскай арміі, наведаў аўтаномны край Косава. Пры гэтым трэба адзначыць, што практычна ўсе перагаворы былі закрыты для журналістаў. Ваенныя эксперты таксама працавалі са сваімі калегамі ў рамках поўнай канфідэнцыяльнасці.



**Такі выгляд атрымала вёска ў наваколлі горада Джаковіца ў выніку ваенных дзеянняў.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛТА.**

Косаўскае пытанне без усякага перабольшання — пытанне нумар адзін у міжнароднай палітыцы апошніх дзён. Сілавое вырашэнне гэтай праблемы натаўскімі ўзброенымі сіламі магло прывесці да самых неабарачальных вынікаў. Але, як вядома, сітуацыя з абгрунтаваннем ваеннага ўмяшання ўскладнілася тым, што Бялград вывеў частку сваіх ваенных падраздзяленняў (спецыяльную паліцыю і ваенныя часці) з Косава і тым самым часткова выканаў патрабаванні, якія змяшчаліся ў ранейшай рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН. Беларуская дэлегацыя знаходзілася ў Югаславіі менавіта ў той момант, калі былі аб'яўлены першыя чатыры дні своеасаблівага ультыматуму. Зрэшты, як адзначыў у інтэрв'ю тэлебачанню Югаславіі Віктар Шэйман, Беларусь не толькі ўважліва сочыць за падзеямі на Балканах, але была першай з еўрапейскіх краін, якая адкрыта выступіла з асуджэннем планаў НАТО па сілавому вырашэнню косаўскай праблемы.

У гэтым жа інтэрв'ю кіраўнік беларускай дэлегацыі адзначыў, што пазіцыю Беларусі адносна косаўскай праблемы яшчэ 6 кастрычніка акрэсліў кіраўнік беларускай дзяржавы, перасцерагаючы НАТО ад спроб ваеннага ўмяшання ў справы Югаславіі.

«Беларускі народ усім сэрцам падзяляе пачуцці братоў-югаславаў, якія адстойваюць адзінства сваёй радзімы. Без перабольшання можна сказаць, што сёння, як і 6 стагоддзяў таму, на Косаўскім полі вырашаецца лёс незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці югаслаўскай дзяржавы. Наша салідарнасць з брацкай Югаславіяй знаходзіць рэальнае ўвасабленне ў правядзенні Рэспублікай Беларусь паслядоўнай палітыкі, накіраванай на падтрымку працэсу мірнага вырашэння крызісу ў Косаве за сталом перагавораў. Мы перакананы, што любое ваеннае ўмяшанне звонку ва ўнутраныя справы суверэннай Югаславіі тоіць у сабе непрадказальныя вынікі не толькі для Балканскага рэгіёна, але і для ўсёй Еўропы ў цэлым», — сказаў Віктар Шэйман.

Разам з тым неабходна адзначыць, што Беларусь заўсёды надавала велізарнае значэнне дынамічнаму развіццю адносінаў з Югаславіяй, бачачы ў гэтым глыбокую ўзаемную цікавасць. У 1996 годзе паміж дзвюма краінамі быў падпісаны поўнамаштабны дагавор аб супрацоўніцтве. Дзейнічае яшчэ больш як 10 пагадненняў, якія ахопліваюць розныя сферы двухбаковых адносінаў. Акрамя таго, Беларусь, як і Югаславія, спаўна ўведала сапраўдную цану міру, панёсшы незлічоныя матэрыяльныя і людскія страты ў пажарышчах дзвюх сусветных войнаў. Менавіта таму пазіцыя нашай краіны — за неўмяшанне ва ўнутраныя справы Югаславіі.

«Мы будуем сваю знешнюю палітыку, апіраючыся на ўласны гістарычны вопыт, разважны сэнс і зразумелае жаданне народаў жыць у міры і згодзе. Мы за тое, каб будучыня свету будавалася на шляхах стваральнага супрацоўніцтва і ўзаемадзеяння, а не станавілася заложнікам барацьбы за зоны ўплыву, якія ляжаць удалечыні ад нацыянальных тэрыторый. Мінулае вучыць нас: вайну лёгка пачаць, але аднаўляць усе прыходзіцца цаной неймаверных намаганняў і затрат.

Мы перакананы, што любыя спробы вырашыць этычныя і гуманітарныя праблемы ваенным шляхам асуджаны гісторыяй на правал», — заявіў дзяржаўны сакратар Савета бяспекі. Гаворачы аб палітыцы НАТО, Віктар Шэйман адзначыў, што Паўночнаатлантычны альянс сёння імкнецца апраўдаць мэтазгоднасць свайго далейшага існавання,

(Заканчэнне на 2-й стар.)

*Футбол. Чэмпіянат Беларусі.*

## ІНТРЫГА ЗА «СЕРАБРО» ЗАХОЎВАЕЦЦА

Пасля амаль двухтыднёвага перапынку, звязанага з выступленнем маладзёжнай і нацыянальнай зборных Беларусі ў адборачных матчах да чэмпіянату Еўропы-2000, аднавіўся VIII чэмпіянат Беларусі па футболу ў вышэйшай лізе — прайшоў 27-мы тур, які дакладна вызначыў, што на сярэбраныя і бронзавыя медалі прэтэндуюць толькі БАТЭ і «Белшына». Барысаўчане, абыграўшы на выездзе салігорскі «Шахцёр» з лікам 2:0, па-ранейшаму займаюць другі радок у турнірнай табліцы, апярэджваючы сваіх канкурэнтаў з Бабруйска на тры ачкі. Белшынаўцы на гэты раз адолелі брэсцкае «Дынама» з лікам 3:0, і за два туры да фінішу будуць спадзявацца толькі на фартуну, каб фінішаваць услед за наваспечаным чэмпіёнам,— магілёўскім «Днепр-Трансмашам», які цяпер у Мінску разышоўся з мірам — (0:0) са сталічным «Тарпеда».

Вынікі астатніх сустрэч:

Тарпеда-Кадзіна — Лакаматыў 96-0:3

Гомель — Камунальнік — 2:1

Славія — Нафтан-Дэвон — 3:2

Нёман — Дынама (Мн) — 1:4

Перадапошні, 28-мы тур пройдзе ў суботу, 24 кастрычніка.

Найбольш цікавыя гульні: «Нёман» — «Белшына», «Маладзечна» — «Тарпеда», «Лакаматыў-96» — БАТЭ.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 19 КАСТРЫЧНІКА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 77900 | 78000 | 48230 | 48290 | 5540 | 5740 | 222-0750 |
| Тэхнабанк | 76000 | 77000 | 47100 | 47600 | 5460 | 5660 | 283-15-00 |
| Белбізнесбанк (гал. апер. упр.) | 77000 | 78000 | 47670 | 48280 | 5670 | 5740 | 276-95-31 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 55600,00 | | 34346.43 | | 3600,00 | | Курс на 20.10.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 17.0900 | | 10.5729 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваацца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

*УСМІХНЁМСЯ!*

Трое сяброў едуць па Крыму. Тут дарогу іх аўтамабілю загарадзіў бык. Адзін выйшаў, папрасіў быка адысці — той не паслухаў. Другі стаў упрошваць быка — таксама нуль увагі. Выйшаў трэці: шапнуў штосьці быку на вуха — быка і след прастыў. Першы спытаў сябра, што ён такое сказаў быку. «Нічога асаблівага, — адказаў той, — проста сказаў яму, што зараз адвяду ў калгас».

* * *

Неяк у адным лесе дазволілі вольнае паляванне на мядзведзяў. Ім нічога не заставалася, як бегчы праз мяжу. Сярод іх убачылі зайца, пытаюць:

— *А ты чаму бяжыш?*

— *Як чаму? Страляюць жа ўсіх мядзведзяў.*

— *Дык ты ж не мядзведзь!*

— *А вы паспрабуйце гэта ім даказаць.*



Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

## ДАПАМАГЧЫ ЮГАСЛАВІІ — НАШ АБАВЯЗАК ГОНАРУ, СУМЛЕННЯ І БРАЦТВА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

спрабуючы ўзяць на сябе функцыі сусветнага паліцэйскага, вырашаць па свайму меркаванню, каму дараваць, а каго караць. Рэспубліка Беларусь вызначыла свае негатыўныя адносіны да працэсу пашырэння НАТО і яго прэтэнзій на ролю адзінага гаранта еўрапейскай бяспекі. Яшчэ ў ліпені 1997 года Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь заявіў, што пашырэнне НАТО гэта, магчыма, самае спрэчнае і самае недальнабачнае рашэнне заходніх палітыкаў XX стагоддзя.

Многія палітыкі не ўспрынялі такую пазіцыю, разлічваючы на трансфармацыю Паўночнаатлантычнага блока. Аднак надзеі на трансфармацыю НАТО не апраўдаліся. Лідэр альянсу — ЗША — наносіць ракетна-ядзерныя ўдары па Судану і Афганістану, якія прывялі да гібелі ні ў чым не вінаватых людзей. Без санкцыі Савета Бяспекі ААН, па ўласнаму меркаванню, НАТО рыхтуе ваенную акцыю на тэрыторыі Югаславіі, суверэннай дзяржавы, а гэта па агульнапрызнаных нормах міжнароднага права можа быць кваліфікавана не інакш як агрэсія, — адзначыў кіраўнік дзяржаўнай дэлегацыі.

Паводле слоў Віктара Шэймана, Генеральны сакратар НАТО Хаўер Салана ўжо адкрыта заявіў, што распрацоўваецца новая стратэгічная канцэпцыя блока, прызначаная запоўніць прабел у Статуце ААН, які не прадугледжвае ваенную інтэрвенцыю па гуманітарных прычынах. «На нашых вачах адкрыта ажыццяўляецца спроба разбурыць аснову існуючага светапарадку, падарваць аўтарытэт і ўплыў ААН, прызначанай адыгрываць ключавую ролю ў вырашэнні праблем міжнароднай бяспекі і дзейнічаць ад імя ўсяго сусветнага супольніцтва. Рэспубліка Беларусь паслядоўна выступае супраць глабалізацыі функцый НАТО, справядліва мяркуючы, што ўсе народы Еўропы і свету маюць права як роўныя ўдзельнічаць у забеспячэнні міжнароднай бяспекі».

А імкненне прэзідэнта Слабадана Мілошавіча знайсці вырашэнне косаўскай праблемы за сталом перагавораў, ісці па шляху выканання рэзалюцый Савета Бяспекі ААН, на думку Віктара Шэймана, сведчыць аб наяўнасці ў кіраўніцтва Югаславіі вялікага рэзерву добрай волі і адказнасці за лёс народаў.

Пакідаючы Югаславію, кіраўнік дзяржаўнай дэлегацыі нашай краіны выказаў упэўненасць, што разумны сэнс урэшце пераможа, крызіс будзе вырашаны мірнымі палітычнымі сродкамі. Рэспубліка Беларусь і яе прэзідэнт будуць і ў далейшым усяляк падтрымліваць развіццё дыялога ў Югаславіі. Разам з тым ён яшчэ раз падкрэсліў рашучасць Беларусі аказаць усякую дапамогу і падтрымку югаславам, калі яны падвергнуцца агрэсіі звонку.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**

## Сяргей МІШЫН: «КАНЦЭРН «БЕЛНАФТАХІМ» АБАВЯЗВАЕЦЦА ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ СПАЖЫЎЦОЎ НАФТАПРАДУКТАМІ»

*З віцэ-прэзідэнтам канцэрна «Белнафтахім» Сяргеем Мішыным гутарыць карэспандэнт Інтэрфакса Іван Сцяпура*

**— Сяргей Міхайлавіч! Якія меры прымаюцца канцэрнам для забеспячэння рэспублікі дастатковай колькасцю нафтапрадуктаў?**

— Забеспячэнне рэспублікі нафтапрадуктамі — адна з асноўных задач, якія стаяць перад канцэрнам «Белнафтахім». Для яе выканання канцэрн актыўна ўзаемадзейнічае з банкамі, нафтавымі кампаніямі, Беларускай чыгункай. Спецыялісты канцэрна імкнуцца больш эфектыўна выкарыстоўваць магчымасці прадпрыемстваў і арганізацый, якія ўваходзяць у яго састаў і спецыялізуюцца на здабычы, транспарціроўцы і перапрацоўцы нафты, а таксама прадпрыемстваў нафтапрадуктазабеспячэння.

Улічваючы эканамічныя магчымасці рэспублікі і сітуацыю на нафтавым рынку, канцэрн «Белнафтахім» перайшоў у гэтым годзе пераважна ад закупак нафтапрадуктаў у перапрацоўшчыкаў нафты да закупак нафты. Гэта дало магчымасць кантраляваць сітуацыю, больш эфектыўна выкарыстоўваць вытворчыя магутнасці нафтаперапрацоўчых заводаў, значна знізіць расходы валюты і забяспечваць у цэлым патрэбнасці народнай гаспадаркі ў нафтапрадуктах.

Канцэрнам толькі за студзень—верасень гэтага года закуплена, выраблена і рэалізавана спажыўцам рэспублікі нафтапрадуктаў у два разы больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. Так, рэалізацыя аўтабензінаў за гэты перыяд павялічылася на 54,8 тыс. тон, дызельнага паліва — на 146,4 тыс. тон, топачнага мазуту — на 558 тыс. тон. Значна ўзраслі пастаўкі нафтапрадуктаў для прадпрыемстваў Міністэрства будаўніцтва і архітэктуры — 154 працэнты, Міністэрства транспарту і камунікацый — 140 працэнтаў, Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі — 164 працэнты.

**— Адным з асноўных спажыўцоў нафтапрадуктаў з'яўляецца сельская гаспадарка. Што зроблена прадпрыемствамі канцэрна для забеспячэння ўборкі ўраджаю?**

— Пад асобным кантролем канцэрна знаходзяцца пытанні пастаўкі нафтапрадуктаў спажыўцам аграпрамысловага комплексу. Канцэрн узгадніў з Мінсельгасхарчам аб'ёмы паставак нафтапрадуктаў вёсцы на перыяд загатоўкі кармоў і ўборкі ўраджаю ў аб'ёме, неабходных для правядзення ўсяго комплексу сельскагаспадарчых работ, у тым ліку: аўтабензінаў — 114 тыс. тон, дызельнага паліва — больш як 350 тыс. тон.

Усяго для забеспячэння сельскагаспадарчых работ канцэрнам было пастаўлена 228 тыс. тон аўтамабільных бензінаў і 459 тыс. тон дызельнага паліва, у тым ліку адпаведна 78,1 і 236,2 тыс. тон па фіксаваных цэнах. Улічваючы фінансавыя цяжкасці калгасаў і саўгасаў, канцэрнам былі зменшаны адпускныя цэны да ўзроўню фіксаваных дадаткова на 25 тыс. тон дызельнага паліва. Такім чынам, аказана фінансавая дапамога вёсцы на суму больш як 50 млрд. рублёў. Зрываў у забеспячэнні сельскагаспадарчых работ гаруча-змазачнымі матэрыяламі дапушчана не было.

**— Чаму ўведзены абмежаванні на водпуск бензіну і дызельнага паліва ў шэрагу рэгіёнаў рэспублікі? Ці чакаецца далейшае павышэнне цэн на бензін?**

— У верасні гэтага года канцэрн увёў абмежаванні на водпуск нафтапрадуктаў транзітным аўтаперавозчыкам і прыватным аўтауладальнікам у прыгранічных раёнах рэспублікі. Ліміт для транзітнага транспарту там складае: для легкавых машын — 20 літраў бензіну, для грузавых — 100 літраў дызельнага паліва.

Гэта мера вымушаная, і яна накіравана перш за ўсё на абарону айчынных спажыўцоў. З павелічэннем цэн на нафтапрадукты ў Расіі на 30—40 працэнтаў нашы айчынныя бензін і дызельнае паліва сталі каштаваць менш, чым расійскія. Вышэй цэны на нафтапрадукты і ў іншых суседніх дзяржавах, што абумовіла павышаны попыт транзітных аўтаперавозчыкаў на беларускія бензіны і дызельнае паліва. Гэтым і выклікана ўвядзенне абмежавання, і ніякай гаворкі аб дэфіцыце нафтапрадуктаў не ідзе.

У сувязі з вышэйпамянёнымі прычынамі, а таксама з-за росту курса долара ЗША ў адносінах да беларускага рубля з кастрычніка павышаны свабодныя адпускныя цэны на асноўныя нафтапрадукты на 2—5 працэнтаў. Так, кошт аўтамабільных бензінаў за адну тону склаў: маркі А-76 — 12,9 млн. рублёў, А-92 — 18,4, А-95 — 21,7 млн. рублёў. Тона дызельнага паліва каштуе 9,5 млн. рублёў, мазуту — 3,5 млн. рублёў.

Рэзкага павышэння цэн на бензін не будзе. Іх павелічэнне мяркуецца ў адпаведнасці з ростам інфляцыі, бо нафта і нафтапрадукты Беларусь закупляе ў Расіі за расійскія рублі і свабодна канверсоўную валюту. Гэта таксама абумоўлена неабходнасцю паступовага выраўноўвання ўнутраных цэн на паліва з цэнамі на яго ў суседніх дзяржавах у мэтах прадухілення некантраляванага вывазу.

**— Наперадзе — работа ў зімовых умовах. Як складваецца сітуацыя з забяспечанасцю бензінам, іншымі відамі паліва на гэты перыяд?**

— У канцы жніўня—пачатку верасня ў некаторых рэгіёнах рэспублікі адчувалася пэўная напружанасць з забяспечанасцю асобнымі відамі бензінаў. Гэта было выклікана тым, што прыярытэты ў пастаўках нафтапрадуктаў з улікам уборкі ўраджаю былі аддадзены сельскай гаспадарцы. (Удзельная вага сельскай гаспадаркі ў агульным аб'ёме спажывання нафтапрадуктаў у рэспубліцы складае: па бензіну — 28 працэнтаў, па дызельнаму паліву — 45 працэнтаў.)

Выявіліся таксама наступствы фінансавага крызісу ў Расіі, недастатковая канвертацыя валюты для закупак нафты, што прывяло да змяншэння яе паставак у рэспубліку.

Канцэрнам былі прыняты дадатковыя меры, якія дазволілі зняць напружанне па забеспячэнню аўтабензінамі, якое ўзнікла па вышэйпамянёных прычынах, прычым не толькі ў Мінску, але і ў іншых рэгіёнах рэспублікі. Толькі ў перыяд з 26 па 30 верасня для спажыўцоў рэспублікі было адгружана 23,7 тыс. тон аўтабензіну А-76 і 9,2 тыс. тон аўтабензіну А-92.

За 12 дзён кастрычніка пастаўлена 25 тыс. тон аўтабензіну А-76 і 15 тыс. тон А-92, 21 тыс. тон дызельнага паліва і 104 тыс. тон топачнага мазуту.

Канцэрн вядзе мэтанакіраваную работу па стварэнню запасаў топачнага мазуту і задавальнення бягучага спажывання прадпрыемстваў энергетыкі, жыллёва-камунальнай і сельскай гаспадаркі, а таксама прадпрыемстваў, якія працуюць па бесперапыннаму цыклу і выпускаюць спажывецкія тавары.

Для забеспячэння работы ў зімовых умовах за 12 дзён кастрычніка ўжо пастаўлена звыш 50 працэнтаў топачнага мазуту, запланаванага да пастаўкі ў гэтым месяцы.

Да канца кастрычніка гэтага года з закупляемай канцэрнам нафты будзе выпрацавана і пастаўлена для патрэб народнай гаспадаркі да 40 тыс. тон аўтабензіну А-76, 15 тыс. тон А-92, 2 тыс.тон А-95 і 136 тыс. тон топачнага мазуту.

Гэта дазволіць забяспечыць патрэбнасці спажыўцоў рэспублікі ў нафтапрадуктах, стварыць неабходны запас топачнага мазуту для прадпрыемстваў Белэнерга, Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Мінсельгасхарча.

Нягледзячы на значныя складанасці з набыццём нафтавай сыравіны, канцэрн «Белнафтахім» забяспечыць пастаўкі спажыўцам рэспублікі нафтапрадуктаў у неабходным асартыменце.

Работа, праведзеная з нафтавымі кампаніямі, дазваляе гаварыць аб тым, што патрэбнасці краіны ў нафце на будучы асенне-зімовы перыяд будуць забяспечаны.

## Рух па абароне нашай душы

**Менавіта так назваў серыю мастацкіх пленэраў, якія трэці год запар праводзяцца па ініцыятыве магілёўскіх уладаў, адзін з удзельнікаў урачыстага адкрыцця падагульняючай выставы пленэру сёлетняга, які называўся «Вобраз радзімы ў выяўленчым мастацтве» і быў прысвечаны памяці рускага мастака-перадзвіжніка Мікалая Неўрава.**

8 дзён доўжыўся пленэр, у якім бралі ўдзел мастакі з Беларусі, Расіі, Украіны і Літвы. Першая яго палова прайшла ў Круглянскім раёне Магілёўшчыны, дзе калісьці жыў Мікалай Неўраў, другая — на акадэмічнай базе Саюза мастакоў Расіі ў Цвярской вобласці. Па ўражаннях мастакоў, крызіс у Расіі на іх пленэр уплыву не аказаў: на базе ў Цвярской вобласці яны нармальна жылі і харчаваліся. А вось успаміны ад знаходжання на Кругляншчыне былі аднадушнымі: «Нас літаральна насілі на руках».

— Час зараз складаны, а таму быццам бы і не да культуры. Але ў Магілёве так не думаюць, — сказаў на закрыцці пленэру народны мастак Беларусі, прафесар Віктар Грамыка. — Усе разумеюць, што мастаку патрэбны праца на прыродзе, жывыя працяглыя зносіны з людзьмі. А гэта патрабуе немалых сродкаў, якіх у Саюза мастакоў няма. Таму яшчэ раз дзякуй арганізатарам магілёўскіх пленэраў.

Віктар Грамыка ўзначальваў на пленэры памяці Неўрава грамадскае журы, якое прысудзіла намінацыі, названыя імёнамі знакамітых мастакоў. Намінацыі атрымалі: імя Бялыніцкага-Бірулі — магілёўскі мастак Уладзімір Шпартаў, імя Паленава — Іван Сцяпанаў з Арла, імя Саўрасава — Мікалай Давыдаў з Цверы, імя Левітана — маскоўскі мастак Валерый Палатноў, імя Масленнікава — кіяўлянін Леў Вітковскі, імя Неўрава — Леанід Дударэнка з Мінска.

Наступны пленэр па жывапісу плануецца ў Магілёве ў будучым годзе, і ён будзе прымеркаваны да 85-годдзя Паўла Масленнікава.

А зараз абласное ўпраўленне культуры рыхтуецца да іншага значнага мерапрыемства — фестывалю нацыянальнай драматургіі імя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, які плануецца правесці ў горадзе Бабруйску ў лістападзе.

**Ілона ІВАНОВА.**

## Падрабязнасці СЛЕДСТВА ПРАЦУЕ

Як ужо паведамлялася ў прэсе, на мінулым тыдні быў па-зверску забіты сакратар Брэсцка-Кобрынскай епархіі, протаірэй Міхаіл.

Яго знайшлі ў аўторак каля 15 гадзін непадалёку ад аўтатрасы Брэст — Мінск. Забіты святар ляжаў у сваім аўтамабілі «Фольксваген-Вента» на заднім сядзенні, тварам уніз.

Як заключыла судова-медыцынская экспертыза, Міхаіла Сацюка забілі ўноч з 12 на 13 кастрычніка ўдарам нажа ў сэрца. Пра тое, што гэта было не простае забойства, сведчаць рэзаныя і колатыя раны на целе святара. Відаць, перад тым, як нанесці смяротны ўдар, протаірэя катавалі, штосьці хацелі выпытаць...

Хаця машына і стаяла ў лесе, але месца не было глухім. Непадалёку знаходзяцца зямельныя ўчасткі, і сюды прыходзілі працаваць людзі. Аўтамабіль яны не маглі не бачыць.

А знайшоў забітага святара яго сын.

Сейф у кабінеце М. Сацюка быў адчынены, і з яго зніклі ўсе каштоўнасці.

Пракаменціраваць гэтую трагедыю я папрасіў знаёмага следчага, які паведаміў наступнае: *«Напады на праваслаўных святароў — з'ява частая. За апошнія гады толькі ў Баранавіцкім раёне вымагалі грошы ў святароў з вёсак Новая Мыш і Чэрніхава. У большасці выпадкаў рэкецірамі з'яўляюцца знаёмыя ці асобы, якія дзейнічаюць па наводцы знаёмых. Усё заканчвалася насіллем ці пагрозамі, да забойства справа не даходзіла.*

*Хаця следства ў разгары, але многія факты сведчаць, што святар забіты не выпадкова, а з мэтай нажывы, і ўчынілі забойства найхутчэй тыя, з кім святар меў сустрэчу вечарам у панядзелак».*

Цяпер у Брэсце разам з мясцовымі сышчыкамі працуе група сталічных следчых. Вынікі расследавання сведчаць, што ў хуткім часе забойства будзе раскрыта.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## ГРЫБЫ З БЕЛАРУСІ І УКРАІНЫ Ў ЕЎРОПЕ ПАД АСАБЛІВЫМ КАНТРОЛЕМ

Еўрапейская камісія вырашыла ўстанавіць больш жорсткі кантроль за імпартам грыбоў з Украіны і Беларусі. Выканаўчы орган Еўрасаюза дзейнічаў па сігналах з Аўстрыі, Германіі і Францыі, дзе зафіксаваны выпадкі імпарту грыбоў з павышанай ступенню радыеактыўнасці. У «чорны спіс» трапілі таксама Польшча, Літва і Румынія, паведамляе ІТАР—ТАСС.

Згодна з правіламі, прынятымі Саветам ЕС у хуткім часе пасля чарнобыльскай аварыі, гранічная канцэнтрацыя радыеактыўнага цэзію ў харчовых прадуктах не павінна перавышаць 600 бекерэляў на кілаграм. Спецыяльны камітэт, створаны тым жа саветам, на надзвычайным пасяджэнні пацвердзіў абгрунтаванасць скаргаў імпарцёраў на павышаную радыеактыўнасць грыбоў з Усходняй Еўропы.

Еўрапейская камісія абавязала імпарцёраў у ЕС больш старанна правяраць грыбы, а экспарцёраў тавару з-за межаў ЕС — суправаджаць яго адпаведнымі сертыфікатамі.

У бліжэйшы час будзе абвешчаны спіс пунктаў пагранічнага кантролю, праз якія можна ўвозіць грыбы на тэрыторыю Еўрасаюза, таму што там наладжаны жорсткі кантроль. Парушальнікам пагражаюць сур'ёзнымі вынікамі для іх гандлёвых адносін з ЕС.

**БЕЛТА.**

## Інфарм-кактэйль

Прыйшла бабуля Ле Тхі Ко ў адну з бальніц горада Хошымін, паскардзілася на боль у грудзях. Сталі слухаць яе ўрачы — і абамлелі: аказалася, што ў яе... няма сэрца. Затым, праўда, з дапамогай рэнтгена яго ў бабулі знайшлі, але з правага боку, а пячонку якраз наадварот — з левага. І яшчэ абследаванне паказала, што агульны стан здароўя гэтай в'етнамскай доўгажыхаркі, якой споўнілася 118 гадоў, цалкам здавальняючы.

**ІТАР—ТАСС.**

На Тайвані кожнага злоўленага за руку кліента прастытутак стануць накіроўваць на душавыратавальныя лекцыі аб спосабах засцярогі ад СНІДу і іншых непрыемнасцяў, якія перадаюцца палавым шляхам. Урачы асабліва занепакоены распаўсюджаннем СНІДу: на сённяшні дзень на востраве толькі афіцыйна зарэгістравана прыкладна дзве тысячы носьбітаў ВІЧ-інфекцыі і вызначана, што ў большасці выпадкаў смяротны вірус «падараваны» менавіта прастытуткамі.

Сапраўднай «ганьбай грамадства» на Тайвані лічаць масавае ўцягненне ў секс-бізнес малалетак: там не менш як сто тысяч дзяўчат для сексуальных паслуг, якія не дасягнулі паўналецця.

**ІТАР—ТАСС.**

У Новай Зеландыі вялікая колькасць закаханых жадаюць стаць першай парай у краіне, якая зарэгіструе свой шлюб у XXI стагоддзі. Тысячы пар жадаюць заключыць шлюб за некалькі хвілін да ці адразу пасля наступлення 1 студзеня 2001 года. Праблема ў тым, што сучаснае заканадаўства Новай Зеландыі забараняе рэгістраваць шлюб паміж дзесяццю вечара і шасцю раніцы. Закаханыя звярнуліся да міністра юстыцыі.

**«Труд».**

## ПРАКУРАТУРА ПАДВЯЛА ВЫНІКІ РАБОТЫ ЛАГЕРАЎ АДПАЧЫНКУ

У сувязі з сур'ёзнымі парушэннямі заканадаўства ў адносінах да дзяцей, якія знаходзіліся ў летніх лагерах адпачынку, Генеральным пракурорам Алегам Бажэлкам было даручана падначаленым пракурорам правесці праверкі выканання дзеючых у рэспубліцы нарматыўных актаў, накіраваных на абарону правоў непаўналетніх.

Згодна з матэрыяламі пракурорскіх праверак, у шэрагу аздараўленчых лагераў не быў наладжаны кантроль за выкананнем устаноўленага рэжыму пражывання, што прыводзіла да цяжкіх вынікаў.

Трое падлеткаў з летняга лагера «Чайка» ААТ «Лаўсанбуд» 14 ліпеня пасля 22 гадзін вечара самавольна пакінулі тэрыторыю лагера. Пераплываючы раку Днепр, Павел Б. патануў.

Два браты і яшчэ адзін з падлеткаў, якія знаходзіліся ў аздараўленчым лагеры «Крынічка», скарыстаўшыся бескантрольнасцю з боку супрацоўнікаў лагера, самавольна пакінулі яго. Прыйшоўшы на аб'ект, які будаваўся недалёка, узлезлі на дзвярны казырок, які абваліўся і прыціснуў іх. Мікалай, 1986 года нараджэння, ад атрыманых траўмаў памёр на месцы. Па факту гібелі падлеткаў пракуратурай узбуджаны крымінальныя справы і вядзецца следства.

У шэрагу аздараўленчых лагераў выяўлены шматлікія парушэнні санітарных нормаў і правілаў, тэрмінаў захоўвання прадуктаў, адсутнасці гарачай вады і інш.

У аздараўленчым лагеры «Дружба» Камітэта аграпрамысловага комплексу Дзяржынскага раёна не было гарачай вады, дзвярныя блокі і аконныя рамы прагнілі і пашкоджаны, у сувязі з чым дзеці хварэлі. Толькі за летні перыяд па меддапамогу звярнуліся 496 дзяцей гэтага лагера. Калі такое «аздараўленне» будзе працягвацца, то лагеры, магчыма, ператворацца ў бальніцы.

Нездавальняючыя ўмовы пражывання выяўлены і ў аздараўленчых лагерах «Бярозка» Маларыцкага раёна, «Арляня» Клімавіцкага, «Лясная казка» ПА «Гомельдрэў», «Лясная паляна» ПДА «Рэчыцадрэў» і г. д.

У многіх аздараўленчых лагерах не выконваліся элементарныя санітарныя нормы на харчблоках, што выклікала ўспышкі інфекцый, шматлікія факты недаўкладання дзецям прадуктаў, крадзяжоў і недастач.

У аздараўленчым лагеры «Зорка» Жабінкаўскага раёна з-за парушэння тэрмінаў рэалізацыі скорапсавальных прадуктаў і санітарна-гігіенічных правілаў 49 дзяцей былі шпіталізаваны з-за харчовай таксікаінфекцыі.

У летнім аздараўленчым лагеры «Колас» Віцебскага раёна, як і ў некаторых іншых, выяўлены факт крадзяжу прадуктаў шэф-поварам і вартаўніком лагера на суму больш як 32 мільёны рублёў.

Па выніках праверкі Генеральным пракурорам Алегам Бажэлкам міністру адукацыі ўнесена прадстаўленне аб ліквідацыі парушэнняў пры выкананні заканадаўства па абароне правоў дзяцей: у Савет Міністраў накіравана інфармацыя, у якой прапанаваны канкрэтныя меры па паляпшэнню дзіцячага аздараўленчага адпачынку.

**Аляксей ТАРАНАЎ, старшы памочнік Генеральнага пракурора.**

# ... КАЛІ ЗАВОД СВАІМІ ВЫКІДАМІ ПАШКОДЗІЎ ЗДАРОЎЕ ГРАМАДЗЯНІНА, ТО ЁН МОЖА ПАДАЦЬ НА ЯГО ДЫРЭКТАРА Ў СУД. НЯЎЖО ГЭТА КАЛІ-НЕБУДЗЬ ЗРОБІЦЦА МАГЧЫМЫМ?

***Менавіта такія падыходы і іншыя магчымасці абмяркоўваюцца на міжнароднай канферэнцыі «Навакольнае асяроддзе і правы чалавека», якая 19—20 кастрычніка праходзіць у Мінску***

**Нагадаем чытачам, што хутка, у канцы гэтага года, увесь свет будзе адзначаць 50-годдзе прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.**

**Увогуле гэтых правоў можна налічыць шмат. Але, думаецца, галоўным з іх з'яўляецца права чалавека на жыццё (вядома ж, на жыццё дастойнае). А якім яно можа быць, калі людзі жывуць у брудным прыродным асяроддзі, калі не могуць адстаяць свайго права на спрыяльныя ўмовы ў месцы пражывання?**

**Па ходу размовы нагадаем і пра вынікі IV пан'еўрапейскай канферэнцыі міністраў навакольнага асяроддзя, якая адбылася сёлета ў чэрвені ў дацкім горадзе Орхусе. Прынятая на ёй канвенцыя ўтрымлівае тры асноўныя пазіцыі.**

**Як забяспечыць доступ грамадскасці да экалагічнай інфармацыі? Прадугледжваецца, што кожны грамадзянін любой краіны Еўропы мае права ведаць тое, што яго цікавіць. Прызнаны неабходным і ўдзел грамадскасці ў прыняцці рашэнняў, што датычаць стану навакольнага асяроддзя. Як і магчымасць доступу грамадскасці ў экалагічных пытаннях да правасуддзя.**

**Пры ўсіх сваіх асаблівасцях і накірунках мінская міжнародная канферэнцыя «Навакольнае асяроддзе і правы чалавека» ў нечым працягвае ўжо вызначаную магістральную лінію.**

**Праводзіць канферэнцыю Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль» (БелСаЭС) — пры садзейнічанні прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі, Міжнароднай экалагічнай акадэміі, Асацыяцыі прафесійных эколагаў Беларусі.**

**У зале штаб-кватэры СНД (месцы правядзення міжнароднага форуму) сабраліся прыкладна 90 удзельнікаў мерапрыемства — парламентарыяў, юрыстаў, вучоных, эколагаў, сацыёлагаў, прадстаўнікоў урадавых і грамадскіх арганізацый Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі, ЗША, Швецыі, Турцыі. На некаторыя пытанні журналіста адказаў віцэ-прэзідэнт БелСаЭС Мікалай ПАЎЛАЎ.**

— Глядзіце: практычна ніхто з нашых людзей не задумваецца над сваім асабістым правам на здаровае навакольнае асяроддзе! Вось прыклад. У пачатку арганізацыі міжнароднай канферэнцыі я, як і іншыя актывісты, распаўсюджваў адпаведную анкету. Прыходжу ў адзін інстытут, у другі — і ўсюды адбываюцца неверагодныя дыялогі: «Як вы разумееце права чалавека на спрыяльнае асяроддзе?» У адказ: «А як гэта? А што гэта?»

Прыходзіцца разумнейшым людзям — дацэнтам і прафесарам прыводзіць элементарныя жыццёвыя прыклады. Скажам, у вашым доме сапсаваўся смеццеправод, яго не рамантуюць, а жыльцоў пачынаюць даймаць смурод, камары і іншыя «нячысцікі». Ці яшчэ: побач з домам праходзіць трамвайная лінія, і грукат не дае чалавеку заснуць да адной-дзвюх гадзін ночы. З якой галавой вы пойдзеце заўтра на работу? А гэта ненармальныя ўмовы, гэта і ёсць парушэнне права грамадзяніна на здаровае навакольнае асяроддзе. Людзі спачатку здзіўляюцца, а потым разумеюць, што з усёй велізарнай колькасці такіх экалагічных «дробязяў» (не гаворачы ўжо пра грубыя парушэнні прыродаахоўных патрабаванняў) і складваецца для чалавека праблема жыцця ў неспрыяльных умовах.

У якасці прыкладу зноў прывяду адну з нашых айчынных праблем. А менавіта так званых дыяксінаў, якія ўтвараюцца пры спальванні (утылізацыі) вырабаў з пластыку, поліхлорвінілу і інш. Гэтыя шкодныя рэчывы знікаюць пры перапрацоўцы адходаў толькі пры тэмпературы спальвання вышэй за тысячу градусаў. Наша адзіная фабрыка па спальванню смецця, што пад Мінскам, такой тэмпературы не забяспечвае. І дыяксіны ўзнімаюцца ў паветра, паступова накопліваюцца, а ў выніку вельмі шкодна ўздзейнічаюць на наша з вамі здароўе.

Што мы ведаем пра аб'ёмы такіх накапленняў? Практычна нічога. Каб тут мець дакладную інфармацыю, трэба закупіць вельмі дарагую апаратуру. А дзе грошы? Таму і адказваюць вучоныя і спецыялісты: такіх даных па Беларусі сёння няма.

Якая адсюль выснова? Нават пры добрых законах экалагічнаахоўнай накіраванасці, якія, цалкам магчыма, у нас з'явяцца, мы, звычайныя грамадзяне, не заўсёды будзем інфармаваныя аб тых ці іншых неспрыяльных фактарах, што ўздзейнічаюць на наша навакольнае асяроддзе. Трэба сказаць прама: тэхналогія вытворчасці сёння ідзе наперадзе свядомасці чалавека ў плане асэнсавання ім усіх наступстваў тэхнічнага прагрэсу, магчымасцяў кантролю негатыўных вынікаў.

*— А як, Мікалай Георгіевіч, вы пракаменціруеце звычайную практыку, калі недзе маюцца і*

***ЧАЛАВЕК, ДАПАМАЖЫ САБЕ САМ***

*лічбы, і даныя, а дабіцца адказу чалавек не можа: як уплывае на яго здароўе суседства, напрыклад, з металургічным заводам з яго газавымі выкідамі? Як жыць людзям у тых жа мінскіх Шабанах у суседстве з прамзонай? Дзе грамадзяніну дабіцца абароны свайго права на спрыяльнае навакольнае асяроддзе? У нейкіх экалагічных судах, якія не існуюць?*

— Гэта ж сапраўды наспела. Калі сёння хтосьці і падасць у «звычайны» суд на якога-небудзь шкодніка прыроднага асяроддзя, то як і каго судзіць? Пакуль жа няма ні прававога абгрунтавання, ні адпрацаванага механізма для вырашэння падобных спраў.

Пасля экалагічна-прававога форуму мы выкладзем стэнаграму ўсіх выступленняў, выдадзім матэрыялы асобнай кніжкай, якую распаўсюдзім у ВНУ, міністэрствах, арганізацыях, школах — інфармацыя пойдзе да ўсіх, хто мае хоць нейкае дачыненне да ўзнятай балючай праблемы. Ужо ў гэтым будзе немалы эфект.

У наступным годзе, месяцаў праз восем, мы зноў вернемся да ўзнятай праблематыкі, правядзём чарговае мерапрыемства, падобнае на цяперашнюю канферэнцыю. І зусім, падкрэслю, не для таго, каб некага «падкузьміць», заняцца нейкімі там узаемнымі абвінавачаннямі. А дзеля адкрытага і шчырага інфармавання грамадства ў сэнсе таго, што за гэты час удалося зрабіць практычнага ў справе абароны права чалавека на жыццё ў чыстым прыродным асяроддзі.

**Пытанні задаваў**
**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

# У ДАЎГАХ ЯК У ШАЎКАХ,

## або Дзе знайсці выйсце Мінскаму камвольнаму камбінату?

**Сёння сталічны камвольны камбінат выпускае касцюмную тканіну, тканіну для сукенак, спецыяльнага прызначэння для ваенных, леснікоў і чыгуначнікаў, пражу для трыкатажнай вытворчасці і пашывачны вацін. Усё як і раней, вось толькі аб'ём вытворчасці знізіўся больш чым у 5 разоў.**

**У мінулым годзе камбінат выпусціў 3 мільёны 850 тысяч пагонных метраў тканіны. Больш як дзве трэці абсталявання прастойвае. Сёлета кіраўніцтва прадпрыемства плануе выпусціць 4 мільёны пагонных метраў тканіны і 150 тон трыкатажнай пражы.**

### ЧАМУ КАМБІНАТ НАПАЛОВУ «СТАІЦЬ»?

Паводле меркавання генеральнага дырэктара камбіната Вікенція Шкатулы, галоўная бяда прадпрыемства — недахват абаротных сродкаў. Воўну, фарбавальнікі, аснастку і хімікаты камбінат закупляе за мяжой краіны за долары і расійскія рублі. Сёе-тое можна набыць па бартэру, а вось за «зайчыкі» за мяжой не купіш ужо нічога.

На жаль, маркетынг і рэклама наладжаны на камбінаце пакуль не на самым высокім узроўні. Вопыту малавата. Праўда, на наступны год камбінат атрымаў добрыя заказы: ад айчынных швейных фабрык — на 3,5 мільёна пагонных метраў, расійскія фірмы збіраюцца купіць 1,5 мільёна пагонных метраў, каля 0,7 мільёна пагонных метраў тканіны будзе выраблена для замежных пакупнікоў. Акрамя таго, у стадыі падрыхтоўкі знаходзіцца кантракт на пастаўку 1 мільёна пагонных метраў тканіны в'етнамскай арміі.

### ПАСТКА ГЕРМЕСАЎСКАГА КРЭДЫТУ

Камвольны камбінат яшчэ ў 1993 годзе атрымаў па гермесаўскаму крэдыту з Германіі 71 адзінку абсталявання грэбнечасальных машын на 13 мільёнаў 299 тысяч дойчмарак (DM). Канчатковы тэрмін пагашэння крэдыту разам з працэнтамі ўжо на 20,8 мільёна DM — снежань 2000 года. Генеральным гарантам вяртання крэдыту тады выступіў урад Рэспублікі Беларусь. Ужо ў 1995 годзе аб'ёмы вытворчасці на камбінаце пачалі зніжацца. У выніку на сённяшні дзень 21 грэбнечасальная машына на прадпрыемстве не ўстаноўлена. Кіраўніцтва спрабавала прадаць абсталяванне ў Кітай, Індыю і нават назад у Германію, але нікому гэтыя машыны былі ўжо не патрэбны. У сувязі з тым, што аб'ёмы вытворчасці на камбінаце застаюцца, як і прыбытак, маленькімі, гермесаўскі доўг над прадпрыемствам застаецца вісець амаль поўнасцю. Частку доўгу германскаму боку згадзіўся заплаціць Мінфін. У гэтым годзе камвольшчыкі павінны будуць вярнуць Мінфіну не толькі чарговы транш доўгу з працэнтамі па ім, але і 8 працэнтаў гадавых за карыстанне грашыма.

Сёння камбінату ні адзін банк не дасць крэдыту, бо на балансе ў прадпрыемства больш як 640 мільярдаў рублёў доўгу па гермесаўскаму крэдыту. Паводле слоў Вікенція Шкатулы, сёння спецыялісты прадпрыемства завяршаюць бізнес-план, згодна з якім камбінат зможа расплаціцца па гермесаўскаму крэдыту толькі ў канцы 2010 года, але ніяк не да снежня 2000 года. У хуткім часе камбінат можа стаць банкрутам.

### АКРАМЯ ДАЎГОЎ, НАД ГАЛАВОЙ ВІСІЦЬ «ДЗІРАВЫ» ДАХ

Над галоўным вытворчым корпусам камбіната ёсць дах, які складзены са 192 абалонак арачнага тыпу. Плошча адной абалонкі 250 квадратных метраў. Летась адна абалонка пачала «паўзці» і... развалілася. Вялікай бяды тады не здарылася. Ніхто не загінуў. Потым дапамагаў горад, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях... Сёння ж, згодна з меркаваннямі спецыялістаў політэхнічнай акадэміі, увесь дах над галоўным корпусам патрабуе замены. На гэта спатрэбіцца, па цэнах на кастрычнік мінулага года, 164 млрд. рублёў. Амаль адразу дах пачалі мяняць. Летась было адрамантавана 5 абалонак. Сёлета на гэта камбінат патраціў 3 мільярды рублёў, канцэрн «Беллегпрам» — 6 млрд. рублёў, урад краіны вырашыў выдзеліць 13,8 млрд. рублёў. За гэтыя грошы будуць зроблены 30 новых абалонак. Па плану ўвесь дах будзе заменены да 2005 года.

### КРЫШКУ ПАПРАЦУЕМ НА «ДЗЯДЗЬКУ СЭМА»?

З-за адсутнасці абаротных сродкаў камбінату прыходзіцца працаваць і на давальніцкай сыравіне. Так, сёння камвольны заключыў кантракт з амерыканскай фірмай «Харві-Бенард» на пастаўку 1 мільёна пагонных метраў тканіны. Супрацоўнічае прадпрыемства з амерыканцамі на іх умовах. Амерыканцы пастаўляюць нам воўну, мы з гэтай сыравіны ім робім тканіну. Прыбытак з такіх кантрактаў атрымліваецца вельмі малы. У выніку амерыканцы купляюць у нас практычна толькі танную працоўную сілу. Усяго зараз на камбінаце выпрабляецца на давальніцкай сыравіне каля 50 працэнтаў агульнага аб'ёму тканіны.

### ЦІ ЁСЦЬ ВЫЙСЦЕ?

Нягледзячы на тое, што мы казалі раней, кіраўнік прадпрыемства лічыць, што перспектывы ў яго камбіната ёсць. Па-першае, абсталяванне дазваляе выпускаць тканіну сусветнага ўзроўню. Па-другое, у камбіната ўжо амаль не засталося канкурэнтаў на постсавецкай прасторы. Прадукцыя карыстаецца ў пакупнікоў вялікім попытам. Прадпрыемства працуе не на склад, а выключна пад заказ. Каб камбінат падняўся на поўны рост, Вікенцій Уладзіміравіч прапануе тыя даўгі, якія дзяржава ўжо заплаціла Германіі (гэта каля 10 мільёнаў DM), дараваць прадпрыемству, або размеркаваць іх выплаты да 2010 года, не «накручваючы» працэнты на працэнты. Калі гэта адбудзецца, камбінат зможа знайсці абаротныя сродкі, а з іх дапамогай пачне зарабляць нядрэнныя грошы і вяртаць даўгі.

### З АЎСТРАЛІЙСКАЙ ВОЎНАЙ МОЖНА ЗРАБІЦЬ ЯКАСНЫ РЫВОК

Беларусь з Расіяй жыве ў адзіным мытным саюзе. У сувязі з тым, што ў Расіі ёсць свая воўна, на нашай агульнай тэрыторыі дзейнічае падатак на дабаўленую вартасць (ПДВ) і мытныя пошліны на воўну, якая завозіцца з-за мяжы. Здаецца, усё правільна, але ў Беларусі сваёй воўны няма. У той жа час аўстралійская воўна па якасці ў некалькі разоў пераўзыходзіць расійскую, але купляць яе нам з-за вялікіх ПДВ і мытных пошлін нявыгадна. Кіраўніцтва камбіната лічыць, што было б мэтазгодным адмяніць, ці зменшыць стаўкі ПДВ і мытных пошлін менавіта на воўну. Калі б гэта адбылося, якасць тканіны ў камбіната адразу б істотна палепшылася.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# «МОЙ САЦЫЯЛІЗМ»

**Два гэтыя маналогі і выслухаў ад людзей рознага сацыяльнага стану, рознага ўзросту. Але яны вельмі блізкія адзін аднаму не толькі «сялянскай» прывязкай, не толькі падабенствам дзіцячых нягод.**

**Для мяне найперш тым, што і старэйшы, і маладзейшы сёння прадстаўляюць якраз тую частку беларусаў, што стварае дабраты нашай краіны, ад каго залежыць яе сённяшняе людское трыванне. Менавіта пакаленне тых, каму ад «за трыццаць» да «за шэсцьдзесят» у нашым стараватым народзе самае рабочае пакаленне.**

## ПЯЦЬДЗЕСЯТ ПЯЦЬ ГАДОЎ СЯЛЯНСКАГА СТАЖУ

— Мне сёння шэсцьдзесят тры. Але мой сялянскі стаж менавіта такі — пяцьдзесят пяць гадоў. Бо ўжо ў восем гадоў праца на зямлі стала для мяне не гульнёй і не забавай, а сапраўды працай. У гэтым узросце бацька браў мяне ў поле як работніка. Я баранаваў, рабіў іншую лягчэйшую работу, а ўначы ганяў каня пасвіць. Тады на тэрыторыі Заходняй Беларусі, дзе мы жылі, былі аднаасобныя гаспадаркі. Багацейшыя наймалі парабкаў з малазямельных. Ну, а такія сем'і, як наша, поўнасцю спадзяваліся толькі на дапамогу жанчын і дзяцей. Так што і касіць пачаў я на дзесятым годзе. Бацька спецыяльна для мяне зрабіў невялікую касу-«пяціручку». І я ўжо мусіў не адставаць ад дарослых, пракос, канечне, меншы, недзе яны мяне і абганяць, але па часе працаваў столькі колькі і яны.

Калі ўжо ўбіраўся ў дзецюкі, утварылі ў нашай вёсцы калгас. Дакладней, сагналі ўпартых аднаасобнікаў, абагулілі зямлю ды жывёлу, інвентар. Вось тут пакошваў дык пакошваў.

Помню, з сябрам — мы працавалі ўдвух на двух і дзялілі кошанае — за дзень выкошвалі больш гектара. Прыйдзеш з вечарыны ўжо на досвітку, паспіш нейкую гадзіну — і ў касу. Косіш аж да гарачыні, потым некалькі гадзін, папалуднаваўшы, паспіш — і зноў дацямна з касою. А выходзіла за дзень такой працы два працадні. На працадзень жа давалі тых яшчэ дваццаць капеек грашыма ды паўкілаграма зерня напалову з гірсой. Але самае галоўнае, такой касьбой мы выпрацоўвалі сабе права атрымаць участак для касьбы на ўласную карову.

Вось гэту адзіную кароўку, якую чамусьці не абагулілі — кожны тагачасны калгаснік бярог як самае даражэйшае, бо з яе толькі і жылі.

Кожны ведаў, што ў яго ёсць, што ён атрымае ад таго, што робіць сёння. А ў калгасе апускаліся рукі. Помню, аторваем бульбу на калгасным полі. У кожны плуг запрэжана парка коней. На полі працуюць тры паркі. Але ледзь-ледзь паспяваем адорваць, бо капаць з дзвюх нашых невялікіх вёсачак выйшла ажно сорак жанчын. Бывае, плуг вырвецца — і некалькі каліў застаецца ў зямлі.

На сваёй гаспадарцы абавязкова вярнуўся б, атараў. А тут спакойна прапускаеш. Гэтак сама працуюць і жанчыны. Стараюцца, як найхутчэй пабраць бульбу, што зверху, а зямлю не надта і разграбаюць. Ім жа трэба назбіраць кошык. Стаіць здаравяк-брыгадзір і кожны кошык у кожнай дзяўчыны ўлічвае. Ну, а да якасці яму ніякіх спраў няма.

Потым забралі ў армію, у дэсантныя войскі. Шчыра сказаць, падабалася служыць. Скакаць з парашутам страшнавата, але ж затое кармілі так, як у калгаснай вёсцы і не марыў. Потым вярнуўся дадому, ажаніўся. Быў пасланы на цаліну механізатарам. Праз колькі гадоў пацягнула зноў на радзіму. Цяпер вось на пенсіі, але сялянская праца мая не скончылася. І калі кашу разам з мужыкамі, магу абагнаць любога маладзейшага.

А што ж — столькі гадоў загартоўкі. Хоць і быў доўгі час механізатарам — як выйдзеш з трактара — зноў жа ў плуг ці ў касу і дацямна працуеш на ўласным участку, які «падарылі», адабраўшы сваю зямлю. Так што ніякія тэхнічныя рэвалюцыі, што, кажуць, было пры сацыялізме, мяне не закранулі. У майго дзядулі быў плуг, каса, вілы, граблі. У мяне яны сёння таксама самыя патрэбныя. І будуць патрэбнымі, відаць, да маёй смерці.

## ЯНА ХВАРЭЛА ДЗЕЛЯ НАВУКІ

Родам з Пінскага раёна. Палессе, тут праблема працаўладкавання пры сацыялізме стаяла вельмі востра. Ды што там, большасць мужыкоў з нашай вёскі займаліся тым, што збіраліся ў арцелі і ехалі ва ўсе куткі былога СССР. Са сваімі піламі, сякерамі, іншым інструментам. Нашых будаўнікоў цанілі, ім заўсёды знаходзілася работа. І, як я цяпер разумею, падабалася мужчынам такое жыццё. Вольнае, ды і плацілі — не параўнаць з калгасным. Прывозіў бацька к зіме дадому некалькі тысяч рублёў ды яшчэ тры-чатыры тоны зерня. Было чым гадаваць жывёлу. Было з чаго і самагонку выгнаць. А піў бацька шмат. Прыйдзе, намахаўшыся віламі на вывазцы гною, бярэ слоік і прама са слоіка наталяе смагу. Цяпер я разумею, што так пілося не толькі ад смагі, колькі і для таго каб падтрымаць сілы, бо, нягледзячы на заробкі, жыла тады вёска галаднавата. Да таго ж, на працягу амаль дзесяці гадоў хварэла маці — цяжка хварэла. І бацька не шкадаваў грошай, каб дапамагчы ёй. Не змаглі. Але пра хваробу асобна.

Таму ўжо ў дзевяць гадоў — маці ў бальніцы, бацька «на цаліне» — заставаўся я на гаспадарцы за старэйшага. Была ў нас свінаматка, дык вазіў парасят прадаваць ажно ў Целяханы на кірмаш. Усё даводзілася рабіць, галоўнае ж — без апекі, без падтрымкі старэйшых. У школе на мае абставіны ўвагі і не звярталі асаблівай. Ды і ва ўсіх былі свае праблемы.

Маці захварэла на рэдкую тады хваробу — рак крыві. Гэта ўжо потым, калі вучыўся ў тэхнікуме, я стаў нешта разумець. Накрыла наша Палессе воблака пасля ядзернага выпрабавання. Адсюль і хвароба. Дзевяць гадоў сачылі за ёй урачы, практычна кожны дзень — пераліванне крыві. Калі зрэдку прыязджала з бальніцы пагасціць дадому, ля хаты дзяжурыла «хуткая дапамога».

Бацька ўсё дзівіўся: гэта ж трэба, адной жанчыне і столькі клопату. А я, пасталеўшы, бачыў, што яна хварэе дзеля навукі. Так, трымаюцца за яе, бо вывучаюць, эксперыментуюць.

І пайшла яна з жыцця, здаволіўшы ў нечым навуку. Проста спыніліся ўсе працэдуры, і мне было сказана: трэба чакаць канца. Тады я быў студэнтам, са мной ужо размаўлялі напрамую.

Я вывучыўся, стаў інжынерам. Але падазрэнні да той сістэмы, якая і мяне выгадавала, меў заўсёды. Таму ўсялякія партыі адмаўляў адназначна. Нехта можа мне запярэчыць: але ж лячылі, такія сродкі выдаткоўвалі. Сёння ў нашай яшчэ бясплатнай бальніцы гэтага не сустрэнеш. Ды толькі заглянем у корань: лячылі, спачатку асудзіўшы на немінучую смерць. Ды і праўды ўсёй не адкрывалі.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

# СМАЧНА. КАРЫСНА. ТАННА

## *Так ацэньваюць пакупнікі прадукцыю Клецкага кансервавага завода. Але каб і надалей прадпрыемства нарошчвала выпуск кансерваў для дзіцячага харчавання, яму патрэбна фінансавая дапамога дзяржавы*

***У адной з мінскіх крамаў давялося назіраць цікавую карціну: малады чалавек прасіў прадаўшчыцу адпусціць яму некалькі дзесяткаў слоічкаў дзіцячага харчавання. Але тая была няўмольная — чатыры слоікі, не больш. «Не магу ж я ездзіць са Светлагорскага раёна кожны тыдзень у Мінск. А тут такая нагода — камандзіроўка. Узяў у машыну жонку з дзіцем. Думаў, пакажу ўрачам. Не атрымалася. Не даюць набыць і дзіцячае харчаванне, — не суніма́ўся хлопец. — Я, можна сказаць, вырас на такіх пюрэ і соках. Таму хачу і дачку імі карміць. Гэта ж карысна. Асабліва пюрэ «Неженка». Шкада, што ў тым жа Светлагорску няма такога выбару дзіцячага харчавання».***

***Пакупнікі, што былі ў гэты час у краме, амаль усе параілі прадаўшчыцы аднесці па тых жа чатыры слоічкі харчавання на кожнага з іх, каб клапатлівы бацька мог спакойна ехаць дамоў. Я звярнуў увагу, што той купіў больш за сто слоічкаў з дзіцячым харчаваннем: пюрэ з морквы, яблыкаў, кабачкоў, розныя сокі. Мужчыны дапамаглі яму данесці іх да аўтамабіля, дзе, сапраўды, знаходзілася яго жонка з дзіцем. А купка бабулек-пенсіянерак працягвала абмяркоўваць убачанае, адзначаючы пры гэтым, што наша дзіцячае харчаванне вельмі таннае (ад 10 да 14 тысяч рублёў за слоічак), а вось прывазное занадта дарагое — больш за 60 тысяч рублёў, і ўсяго за 100 грамаў пюрэ. І сапраўды, у параўнанні з імпартнай прадукцыя Клецкага кансервавага завода, дзе вырабляюць дзіцячае харчаванне, у некалькі разоў таннейшая. Праўда, кінулася ў вочы, што знешні выгляд нашых кансерваў значна адрозніваецца ад замежных. Слоік і накрыўка не маюць такога эстэтычнага выгляду, дый занадта вялікай ёмістасці нашы кансервы. Адкрыўшы такі 250-грамовы слоік, яго змесціва трэба выкарыстоўваць на працягу сутак.***

***Ведаючы, што асноўная нагрузка па вытворчасці пладова-агароднінных кансерваў для дзіцячага харчавання кладзецца на Клецкі кансервавы завод, я накіраваўся туды, каб канкрэтна даведацца аб перспектывах развіцця гэтага прадпрыемства.***




### *Медыкі сцвярджаюць*

*Што для дзіцячага арганізма пладова-агароднінныя кансервы вельмі карысныя. Яны прызначаюцца для карэкцыі рацыёну харчавання дзяцей усіх узроставых груп, пачынаючы з трохмесячнага, па вітміннаму і мінеральнаму саставу.*

*Агульная патрэбнасць у такім харчаванні, згодна з рэкамендацыямі Міністэрства аховы здароўя, складае 138,7 млн. умоўных слоікаў у год. З гэтай колькасці не менш як 30 працэнтаў (41,5 млн. умоўных слоікаў) пладоў, агародніны і ягад павінна ўжывацца ў свежапрыгатаваным выглядзе (пюрэ, сокі), а астатнія 97,2 млн. умоўных слоікаў — у выглядзе кансерваў. Магутнасць дзеючых у краіне прадпрыемстваў па іх вытворчасці складае 15 млн. умоўных слоікаў у год, што задавальняе патрэбы дзяцей ва ўзросце да трох гадоў усяго на 15,4 працэнта. Улічваючы важнасць вырашэння гэтай праблемы для дзяржавы і была распрацавана прэзідэнцкая праграма «Дзеці Беларусі». Адна з яе падпраграм — «Развіццё індустрыі дзіцячага харчавання».*

...Побач з вытворчымі карпусамі каля буртоў з морквай і буракамі шчыравалі рабочыя прадпрыемства, закладваючы на працяглы тэрмін захоўвання вітамінную прадукцыю. На халадзільніку разгружалі аўтамашыну з журавінамі. У цэху дзіцячага харчавання таксама поўным ходам ішла работа. Доўга не маглі знайсці дырэктара завода Мікалая Іванавіча Буката: то ён у адным цэху, то ў другім, то гутарыць з будаўнікамі, то адправіўся ў суседнюю гаспадарку. Па ўсім бачна, што гэты чалавек увесь у справах, вельмі заклапочаны вырашэннем тых задач, якія ў гэты складаны перыяд стаяць перад калектывам прадпрыемства. Нават калі і пачалі мы з ім гутарку, не ўдавалася спакойна пагаварыць з-за пастаянных званкоў і многіх наведвальнікаў. Тым не менш, шмат чаго мы даведаліся ад кіраўніка завода. Напрыклад, пра тое, што калісьці гэтае прадпрыемства было вельмі магутным. Тут выраблялася да 30 млн. умоўных слоікаў прадукцыі: сокі, джэмы, варэнне, салаты, кампоты, пюрэ. Трэцюю частку агульнага аб'ёму займала дзіцячае харчаванне. Калісьці, у часы Саюза, завод планавалася перапрафіліраваць пад яго выраб. У 1991 годзе тут збіраліся правесці рэканструкцыю, каб давесці аб'ёмы яго прадукцыі да 25 млн. умоўных слоікаў. Былі выкананы праекты, італьянцы нават завезлі сякое-такое абсталяванне, але з развалам вялікай дзяржавы ўсё заціхла, таму прыйшлося вяртаць ім яго назад. І толькі намаганнямі ўладаў, самога працоўнага калектыву ўдалося захаваць прадпрыемства. Праўда, аб'ёмы вытворчасці былі зусім невысокія, што нельга было не заўважыць па паліцах крамаў, з якіх дзіцячае харчаванне айчыннай вытворчасці зусім знікла. Рост пачаўся два гады таму. Калі пазалетась, напрыклад, выраблена 9 млн. умоўных слоікаў прадукцыі, то летась — ужо 12 млн. Амаль у два разы павялічылася вытворчасць сокаў і пюрэ для дзіцячага харчавання і дасягнула 4,77 млн. умоўных слоікаў. У сёлетнім годзе яго выпуск павялічыцца да 6 млн. умоўных слоікаў.

**— Такімі тэмпамі, Мікалай Іванавіч, вы хутка і вырашыце праблему забеспячэння дзяцей ва ўзросце да трох гадоў кансервамі на пладова-агароднінай аснове, — раблю вывад, звяртаючыся да дырэктара завода.**

— Сёння гэта немагчыма, — заклапочана адказвае Мікалай Буката. — Перашкодаў шмат. Чвэрць стагоддзя эксплуатуецца на заводзе абсталяванне. Яно, вядома ж, ужо ўстарэла і маральна, і фізічна.

**— Тым не менш, дзеці з задавальненнем спажываюць вашу прадукцыю...**

— Толькі дзякуючы вопыту і майстэрству спецыялістаў і рабочых завода ўдаецца падтрымліваць высокую марку. Дарэчы, усе нашы спецыялісты маюць вышэйшую ці сярэднюю спецыяльную адукацыю. Калі вы акцэнтуеце ўвагу на дзіцячым харчаванні, то шмат сіл і энергіі для яго вытворчасці аддаюць намеснік дырэктара Людміла Паўлоўская, загадчыца лабараторыі Надзея Пальчынская, начальнік цэха дзіцячага харчавання Кацярына Рубанік, тэхнолаг і майстар гэтага ж цэха Алена Кавальчук і Лідзія Самахвал, а таксама рабочыя Валянціна Булавацкая, Валянціна Station Станіслаўчык, Зоя Бем, Таццяна Якімовіч.

**— Цікава, Мікалай Іванавіч, што гутарка наша пачалася з людзей. Звычайна адразу гаворка ідзе пра вытворчасць, а потым, між іншым, называюцца прозвішчы лепшых.**

— Чалавечы фактар, лічу, галоўны цяпер. Без стараннасці, прафесіяналізму людзей і без разумнага падыходу да вырашэння праблемы нельга будаваць планы на перспектыву. Скажу больш: мы вырабляем шмат прадукцыі для дзяцей, таму нельга абыякава, няякасна выконваць сваю работу. Будучае краіны — у здаровых, інтэлектуальна развітых дзецях, і роля паўнацэннага харчавання тут займае не апошняе, а, мабыць, першае месца.





**На здымках:** аператары Ніна НАЛІВАЙКА і Вольга КОБРЫН; афармляе прадукцыю ў тэрмаўсадачную плёнку Соф'я ЦІХАН; стэрылізатар Валянціна СТАНІСЛАЎЧЫК; на выгрузцы гатовай прадукцыі Валянціна БУЛАВАЦКАЯ і Таццяна ШАЛОХА.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

### *Згодна з падпраграмай «Развіццё індустрыі дзіцячага харчавання»*

*Павелічэнне выпуску пладова-агароднінных кансерваў для дзіцячага харчавання плануецца забяспечыць за кошт пашырэння вытворчай базы дзеючых прадпрыемстваў, пераарыентацыі і рэканструкцыі некаторых перапрацоўчых прадпрыемстваў для выпуску менавіта гэтага віду прадукцыі. Да 2005 года мяркуецца павялічыць іх вытворчасць да 37 млн. умоўных слоікаў. На 15 млн. будзе павялічана і магутнасць Клецкага кансервавага завода. З-за недахопу сродкаў яго рэканструкцыя законсервавана, але ўсё ж будзе весціся тэхнічнае пераабсталяванне на існуючых плошчах. Праўда, на ўрадавым узроўні неабходна вырашыць праблему канвертацыі беларускіх рублёў для закупкі імпартнага абсталявання. Без гэтага нельга нават і пачынаць гэту работу.*

— Толькі на набыццё абсталявання, згодна з падпраграмай, заводу павінна быць выдзелена 1650 тысяч долараў ЗША, — расказвае Мікалай Іванавіч. — Аб'яўлены тэндэр на яго закупку. Ужо адгукнуліся некалькі замежных фірмаў. Але мы адносімся да іх прапаноў вельмі сур'ёзна, уважліва вывучаем усе дэталі. Хацелася б устанавіць самыя сучасныя машыны па кантролю за пустымі слоікамі, новы напаўняльна-накрывачны апарат, машыны для этыкеціроўкі і абандэрольвання, а таксама станцыю дазіравання. Мяркую, у наступным годзе пачнём гэтую складаную, але такую неабходную і доўгачаканую работу.

**— Ці не атрымаецца так, што толькі спадзяванні на дзяржаву адмоўна адаб'юцца на тэмпах пераабсталявання завода? Вядома, што рэалізацыя падпраграмы па развіццю індустрыі дзіцячага харчавання прадугледжвае накіраванне фінансавых рэсурсаў з рэспубліканскага (не менш чым 40 працэнтаў) і мясцовага (да 30 працэнтаў) бюджэтаў, а таксама прыцягненне льготных беспрацэнтных крэдытаў (20 працэнтаў) і выкарыстанне ўласных сродкаў прадпрыемства (10 працэнтаў).**

— Мы шмат працуем, каб зарабіць уласныя грошы. Але ўзровень 15-працэнтнай рэнтабельнасці не дазваляе нам мець абаротныя сродкі нават для ўзнаўлення вытворчасці. Наша прадукцыя для дзяцей у 5 разоў таннейшая, чым імпартная. Мы не за тое, каб дзіцячае харчаванне было дарагім, але ж трэба ўсё-такі ўжо станоўча вырашаць пытанне вызвалення прадпрыемстваў, якія вырабляюць прадукты дзіцячага харчавання, ад выплаты падаткаў на прыбытак і дабаўленую вартасць. Дарэчы, у падпраграме гэта прадугледжваецца. Цягнуць час нельга. Упусцім яго, будзе яшчэ горш: з каленяў паднімацца вельмі цяжка. Павінна быць рэальная цана, якая была б прымальнай і для вытворцаў, і для спажыўцоў. Калі мы думаем пра будучае краіны, то неабходна таксама прадугледжваць ільготнае крэдытаванне вытворчасці дзіцячага харчавання. Сёння, мяркую, трэба прыняць усе меры, каб падтрымаць нашы прадпрыемствы, якія, перакананы, могуць хутка развівацца.

Усё ўпіраецца ў фінансы. І ў немалыя. Толькі на закупку слоікаў для дзіцячага харчавання штомесячна нам неабходна расходаваць 3,5 млрд. рублёў, каля 1,5 млрд. — на набыццё накрывак. У час масавай нарыхтоўкі сыравіны штодзённа мы аддаём каля 500 мільёнаў рублёў. Вось і лічыце, якія сумы патрэбны прадпрыемству — каля 28 мільярдаў рублёў у месяц.

**— Цікава, на якую суму вы вырабляеце сваёй прадукцыі?**

— Напрыклад, у верасні яе выраблілі на 26 мільярдаў рублёў, з іх чацвёртую частку складала дзіцячае харчаванне. Калі ж браць гадавыя аб'ёмы, то апошняе дасягае палавіны. Каб працаваў толькі адзін цэх па вытворчасці прадукцыі для дзяцей, нам неабходна перапрацаваць больш як 2,5 тысячы тон толькі яблыкаў. У гэтым годзе ўжо нарыхтавалі каля 400 тон морквы, 3,5 тысячы тон яблыкаў, 100 тон чарніц, 35 тон чырвоных парэчак, 47 тон чорных парэчак, 100 тон кабачкоў, 28 тон клубніц. Нарыхтоўку вялі ў Клецкім і суседніх з ім раёнах.

**— Пагадзіцеся, існуе меркаванне, што на кансервавы завод паступаюць горшыя садавіна і агародніна, горшыя ягады.**

— Не верце гэтаму. Хоць, згодзен, ёсць такая дрэнная звычка ў некаторых людзей. Але няякаснай сыравіне мы паставілі добрую заслону: вядзём строгі кантроль за ўтрыманнем у ёй нітратаў, радыенуклідаў, цяжкіх металаў. Часта здараецца, што і вяртаем пастаўшчыкам сыравіну. Кантроль якасці вядзецца і па гатовай прадукцыі. Асаблівы кантроль за дзіцячым харчаваннем. Магу з упэўненасцю сказаць, што па ўсіх паказчыках нашы пюрэ і сокі для дзяцей больш якасныя і смачныя, чым імпартныя, таму што яны выраблены з натуральнай сыравіны, без хімічных дабавак. Не кажу ўжо пра іх кошт. Самі пераканаецеся, калі зойдзеце ў краму.

**— Вы меркавалі, што ў час нарыхтоўкі морквы будзеце працаваць у тры змены. Не атрымалася? Чаму?**

— Так, планавалі арганізаваць трэцюю змену па перапрацоўцы морквы для дзіцячага харчавання. Але ў нас не хапае слоікаў і накрывак...

**— Не зразумеў: гаворка ідзе, што ў перспектыве прадукцыя прадпрыемства будзе расфасоўвацца ў слоікі трэцяга тыпу з накрыўкай «ПТ», якіх у краіне пакуль і не вырабляюць.**

— Так.

**— Але мы не можам пакуль наладзіць выпуск патрэбнай колькасці звычайных 250-грамовых слоікаў і звычайных накрывак. Парадокс дый годзе!**

— Увесь свет захоўвае паўфабрыкаты ў замарожаных брыкетах, а мы працягваем гарачую разліўку ў 10-літровыя слоікі, якіх таксама ў нас амаль не вырабляюць. У такім посудзе мы можам захоўваць толькі 500 тон паўфабрыкатаў. Гэта вельмі мала. Каб на поўную сілу працаваць у міжсезонны перыяд, неабходна мець амаль 3 тысячы тон паўфабрыкатаў.

### *Нядаўна «Звязда» разам з Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання*

*Правяла «круглы стол» па праблемах развіцця індустрыі дзіцячага харчавання, у якім прымалі ўдзел непасрэдныя вытворцы. Аналізуючы сітуацыю на Клецкім кансервавым заводзе, прыходзіш да высновы, што многія яго праблемы, асабліва фінансавыя, характэрныя і для іншых прадпрыемстваў галіны. Яны, каб зарабіць валюту, не могуць усю прадукцыю адправіць за межы краіны (у адваротным выпадку айчынны рынак застанецца без дзіцячага харчавання на пладова-агароднінай аснове). Да таго ж не вельмі паканкурыруеш з заходняй прадукцыяй па ўпакоўцы і фасоўцы, у якой выпрабляецца наша харчаванне. Магчыма, лягчэй было б, калі б вытворцы дзіцячага харчавання не аддавалі 40 працэнтаў валютнай выручкі. Дарэчы, памеры апошняй зусім невялікія з-за таго, што прадпрыемствы амаль не маюць свабоднай прадукцыі, каб рэалізаваць яе з мэтай набыцця той жа валюты. Як бачна, атрымліваецца замкнутае кола, раскручванне якога без умяшання дзяржавы немагчыма. Не зможа разблытаць гэты клубок і адно Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання. Мяркую, не павінны ў баку ад гэтай справы быць міністэрствы эканомікі, фінансаў, падатковы камітэт. Дзеці ж у нас адны.*

**— Мікалай Іванавіч, пры ўсіх цяжкасцях завод усё ж працуе рытмічна, будуе планы на перспектыву.**

— Інакш і нельга. Кожны працаўнік прадпрыемства адчувае сваю адказнасць перад маленькімі грамадзянамі краіны. Нам бы толькі вырашыць праблемы, пра якія ішла гаворка, тады паказчыкі прадпрыемства будуць яшчэ лепшыя, а дзеці атрымаюць рознабаковае харчаванне. Праўда, ужо сёння яго асартымент вельмі шырокі — выпрабляецца 70 відаў сокаў, пюрэ. Апошнім часам асвоілі выпуск пюрэ з морквы і яблыкаў, кабачкоў і яблыкаў з альгінатам натрыю, які выводзіць з арганізма стронцый і цяжкія металы, а таксама сокаў з вітамінам С. Высокія лячэбныя якасці і ў пюрэ з яблыкаў і шыпшыны. Мяркуем у бліжэйшы час павялічыць вытворчасць бурачнага соку для дзяцей, пашырыць выпуск сокаў з мякаццю — яны больш карысныя. У планах распрацоўка дзіцячага харчавання на аснове агародніны: капусты, бульбы і г. д.

**— Поспехаў вам у гэтай справе.**

**Уладзімір АЛЯХНОВІЧ.**

*ПЫТАЛЬНІК*

## ПЫТАННЕ АБ ГРАМАДЗЯНСТВЕ ВЫРАШЫЦЬ ПРЭЗІДЭНТ

*У мяне ёсць пытанне, на якое я ніяк не магу знайсці адказ. Я родам з Украіны, дзе пражыла 19 гадоў — да лютага 1992 года. Потым я выйшла замуж і пераехала да мужа ў Беларусь, дзе і была прапісана. Мне сказалі, што на працягу пяці гадоў я не маю ніякіх правоў у Беларусі, бо я не з'яўляюся грамадзянкай гэтай краіны. Амаль сем гадоў я жыву ўжо тут, часта наведваю сваякоў ва Украіне. Ніякіх праблем раней не ўзнікала, але вось у апошнюю паездку ў снежні 1997 года на граніцы ўкраінская мытня мяне не прапусціла, паколькі ў мяне няма наогул ніякага грамадзянства. У мясцовым пашпартным стале мне сказалі, што не могуць даць мне грамадзянства Беларусі і новы пашпарт, бо я грамадзянка Украіны. Ці маю я права атрымаць беларускае грамадзянства, калі я жыву ўжо тут з прапіскай сем гадоў?*

**Н. Каробчанка,**
в. Доктаравічы Капыльскага раёна.

Просьба-запыт чытачкі быў разгледжаны ва ўпраўленні пашпартна-візавай службы МУС РБ і пашпартна-візавай службы ўпраўлення ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкама. У апошнім адказе, у прыватнасці, паведамляецца, што «грамадзянамі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца асобы, якія пастаянна пражывалі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь да 12.11.1991 года — дня ўступлення ў сілу Закона «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь», ці набылі грамадзянства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з указаным Законам. На тэрыторыю Рэспублікі Беларусь вы ўехалі з Украіны ў лютым 1992 года — пасля прыняцця Закона Украіны «Аб грамадзянстве», які ўступіў у сілу 13 лістапада 1991 года, у сувязі з чым з'яўляецеся грамадзянкай Украіны. Вам неабходна звярнуцца ў пашпартна-візавую службу Капыльскага РАУС і аформіць від на жыхарства ў Рэспубліцы Беларусь як грамадзянкі Украіны, якая пастаянна пражывае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з 1992 года ў адпаведнасці з Законам «Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў Рэспубліцы Беларусь». Па заканчэнні сямі гадоў пастаяннага пражывання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, пры выхадзе з грамадзянства Украіны, вы маеце права звярнуцца ў пашпартна-візавую службу па месцы жыхарства з заявай на імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб прыёме ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь».

## КАНОПЛІ АДПУЖВАЮЦЬ ШКОДНІКАЎ, АЛЕ ПРЫЦЯГВАЮЦЬ НАРКАМАНАЎ

*У вашай газеце за 11 ліпеня была змешчана рэкамендацыя тым, каму не спіцца, — прымаць настой з насення канапель. А яшчэ раней, 8 ліпеня, на старонках «Звязды» зноў жа сцвярджалася, што мак знаходзіцца пад забаронай, гэтак жа як і каноплі. А ў нашых магазінах прадаюць мак нямецкі. Заўсёды беларусы дабаўлялі ў суслы дзецям мак, рабілі з маку смачны алей. Алей рабілі і з канапель. А якія вяроўкі вілі з іх! Каноплі сеялі каля капусты, каб не было вусеняў на ёй. Цяпер жа капусту «абараняюць» хіміяй. І чаму? Аказваецца, з маку і канапель можна зрабіць наркотыкі. Ну і логіка! Дык жа самагонку таксама нельга гнаць. А каб яе не гналі, выходзіць, трэба забараніць сеяць жыта, пшаніцу, садзіць бульбу...*

**К. Ласкавы**, г. Мінск.

Па адказ на гэтыя пытанні мы зноў звярнуліся ва ўпраўленне па незаконнаму абарачэнню наркотыкаў Міністэрства ўнутраных спраў. Як патлумачылі там адносна продажу ў гандлі маку, ён не з'яўляецца небяспечным. Справа ў тым, што насенне маку не ўтрымлівае опійных алкалоідаў, кажучы прасцей, наркатыўных рэчываў. Іх можна здабыць толькі з соку галоўкі расліны.

Пра каноплі спецыялісты сказалі наступнае. Сапраўды, раней была традыцыя саджаць з капустай, жытам і г. д. каноплі, якія адпужвалі пэўных шкоднікаў. «Але тады не было «хіміі», таму так і рабілі. Зараз жа ёсць адпаведныя прэпараты, якія могуць зняць гэтую праблему. Разумеецца, пасеяныя каноплі ў некага на ўчастку, з аднаго боку, будуць адпужваць шкоднікаў, з другога — прыцягваць наркаманаў...»

# НАКОЛЬКІ РЭАЛЬНАЕ ПРАВА НА АБАРОНУ?

**Чалавек, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі з'яўляюцца вышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы. Дзяржава ў адказе перад грамадзянінам за стварэнне ўмоў для свабоднага і дастойнага развіцця асобы.**

**Так запісана ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Як кажуць юрысты, гэта агульная норма права, хоць датычыцца да кожнага з нас. Але ці можна сёння паверыць, што ў Канстытуцыі размова ідзе менавіта пра цябе? Што менавіта ты з'яўляешся каштоўнасцю грамадства і дзяржавы? Мабыць, можна. Маленькі чалавечак, які ўпершыню выступае на ранішніку ў дзіцячым садзе, можа адчуць, што яго імя гучыць горда. Першакласнік з велізарным букетам кветак 1 верасня ведае, што ён сёння самы галоўны. Выпускнік школы, студэнт. ... Бадай, у лепшыя хвіліны жыцця кожны чалавек можа ацаніць сябе вельмі высока.**

**Але вось гэты ж чалавек трапляе ў бяду, уступае ў канфлікт з законам. І тады здаецца, што ўсе нібыта забыліся, якой каштоўнасцю з'яўляецца чалавек. Як халодным душам можа абдаць яго грубасць, пагарда, абыякавасць да яго лёсу. Чалавек у адну хвіліну можа стаць НІКІМ. Чаму так адбываецца? Палітолаг, сацыёлаг, псіхолаг — кожны назаве сваю прычыну. Я, як юрыст, хачу сказаць толькі аб адной з іх — аб тым, што ў дзяржаве нярэдка забываецца адзін з асноўных прынцыпаў дэмакратычнага грамадства — прынцып законнасці. Прынцыпу, які заключаецца ў тым, што закон, акрамя таго, што ён павінен быць легітымным, справядлівым, неабходным, павінен яшчэ і няўхільна выконвацца ўсімі: грамадзянінам, службовай асобай, органам улады. Пра што якраз часам і забываюць. Закон могуць ігнараваць. Не даваць яму развівацца. Робяць лозунгам. Сёння законаў-лозунгаў шмат. Сярод іх, напэўна, ёсць і «груба збітыя», і таму, сапраўды, нікому не патрэбныя. Але ёсць і нармальныя законы. Часам яны патрэбны чалавеку як паветра і могуць прыйсці яму на дапамогу ў цяжкую часіну. Аднак і гэтыя законы чамусьці «пыляцца на паліцы» — замест іх дзейнічаюць іншыя правілы...**

**Аб адным з такіх законаў-лозунгаў пойдзе сёння размова са старшынёй Рэспубліканскай калегіі адвакатаў Мікалаем Пятровічам ШАЛІМАМ.**

*— Мікалай Пятровіч, студэнт юрыдычнага факультэта любіць, калі на экзамене яму трапіць пытанне аб прынцыпе спаборнасці ў крымінальным працэсе. Ён адразу ж уяўляе сябе ў мантыі і шапачцы з кутасікам, уяўляе, як ён ходзіць па зале судовага пасяджэння і выдае суду адзін доказ за другім, дапытвае сведак, упарта спрачаецца з абвінавачаннем. Уважлівы суддзя ўсё ацэньвае, выносіць рашэнне і... У выніку студэнт, як правіла, атрымлівае выдатна. Скажыце, а калі студэнт стане маладым спецыялістам і прыйдзе да вас у адвакатуру, ён зможа гэтак жа цудоўна вытрымаць экзамен у сапраўдным судзе?*

— Баюся, што яму не трэба будзе нават памятаць, што такое спаборнасць у працэсе. На практыцы ён часта сустрэне той закон-лозунг, пра які вы гаворыце. Спаборнасць, як вядома, дэмакратычны прынцып судаводства, згодна з якім разбор у судзе адбываецца ў форме спрэчкі паміж бакамі ў судовым пасяджэнні, г. зн., калі спрачаюцца абарона і абвінавачанне. Пры гэтым усе ўдзельнікі працэсу надзелены роўнымі правамі, а суд з'яўляецца арбітрам. Пераможа, як кажуць, мацнейшы.

Нашаму крымінальнаму працэсу гэты прынцып таксама вядомы, паколькі з'яўляецца канстытуцыйным. Арт. 115 Канстытуцыі замацоўвае, што правасуддзе ажыццяўляецца на аснове спаборнасці і роўнасці бакоў у працэсе. Але каб прынцып быў рэалізаваны на практыцы, неабходна замацаваць яго ў канкрэтных законах. Даць рэальныя правы ўдзельнікам працэсу. Не забыць, што яны павінны быць роўнымі. У крымінальным працэсе роўныя правы павінны быць дадзены з самага пачатку, калі яшчэ ідзе толькі збор доказаў. Следчы павінен шукаць іх для абвінавачання, а адвакат — для абароны. У судовым працэсе і абвінавачанне і абарона таксама павінны быць у роўным становішчы. Іх справа — прадстаўляць суду доказы, абвяргаць адзін аднаго, спрачацца. Адным словам, пераконваць суд. І няхай суд ацэніць доказы таго ці іншага боку. У гэтым выпадку яму, вядома, прыйдзецца ламаць галаву, вырашаючы, хто мае рацыю. Але вердыкт будзе валодаць найвышэйшай ступенню надзейнасці.

Давайце цяпер паглядзім, што ж адбываецца ў нас на практыцы. Як толькі чалавека пачалі падазраваць ва ўчыненні злачынства, у справу ўступае следчы. Ён стараецца адшукаць доказы віны падазраваемага, замацаваць іх. Ён агледзіць і месца здарэння, і дапытае сведак, і вывучыць усе дакументы. Спектр дзеянняў у яго даволі шырокі...

Што абарона? Чакае, пакуль яе дапусцяць да працэсу. Па агульнаму правілу, адвакат можа быць дапушчаны да працэсу толькі з моманту прад'яўлення абвінавачання, а калі чалавека могуць узяць пад варту — з моманту затрымання. А чаму ва ўсіх выпадках чалавек не можа прыйсці адразу з адвакатам, нават калі ён яшчэ не падазраваемы? У Канстытуцыі рэспублікі (арт. 62) сказана, што кожны мае права на юрыдычную дапамогу для ажыццяўлення і абароны правоў і свабод, у тым ліку права карыстацца ў любы момант дапамогай адвакатаў.

Але грамадзянін, па сутнасці, не можа выкарыстаць гэтую канстытуцыйную норму і ідзе да следчага адзін. Следства пярэчыць не будзе, з адным чалавекам працаваць лягчэй. Да таго ж пры жаданні можна будзе выкарыстаць просты прыём: амаль да канца расследавання справы дапытваць чалавека ў якасці сведкі, не аб'яўляць, у чым яго падазраюць, а толькі потым прыцягнуць яго ў якасці абвінавачваемага і дапусціць адваката. Практыка паказвае, што калі чалавек дае паказанні без адваката, ён часта дапускае недакладнасці, апускае нейкія дэталі. Некаторыя выразы можна тлумачыць дваяка.

Часам чалавек адчувае, што яго ў чымсьці падазраюць, але не ведае ў чым, ім можна маніпуляваць. Гэта і зразумела: чалавек усхваляваны, не надае значэння нейкім момантам, нарэшце, проста баіцца штосьці сказаць. Усё гэта потым адмоўна паўплывае на яго абарону. З другога боку, калі адвакат позна дапушчаны да працэсу, яму цяжка рыхтавацца да абароны. Доказы абароны да таго часу могуць быць страчаны, сапсаваны, схаваны. Ён і так вымушаны дзейнічаць наўздагад, г. зн. з матэрыяламі справы ён зможа азнаёміцца толькі пасля таго, як следчы завершыць справу. Атрымліваецца, што на працягу ўсяго тэрміну следства следчы збірае доказы віны чалавека, а адвакат у гэты час бесперашкодна зможа знайсці толькі характарыстыку асобы свайго падабароннага ды даведку аб стане яго здароўя. Усё астатняе здабываецца з вялікай цяжкасцю.

Не так многа перспектыў у грамадзяніна і ў самім працэсе. Абвінаваўчае заключэнне пракурора зачытвае суддзя. Абвінавачанне, як правіла, старанна падрыхтавана да працэсу, у катэгарычнай форме робіць свае высновы. Ужо на гэтай стадыі працэсу ў суддзі міжвольна адкладваецца ў свядомасці думка аб вінаватасці падсудзімага. Пазбавіцца ад гэтай думкі потым практычна немагчыма. Узнікае, як мы гаворым, абвінаваўчы ўхіл. І паверце, ён адыгрывае не апошнюю ролю ў прыгаворы. На наш погляд, менавіта па гэтай прычыне многія прыгаворы не становяцца апраўдальнымі. Абвінаваўчага ўхілу магло б не быць, калі б абарона і абвінавачанне былі ў роўным становішчы. Не проста давалі ацэнку доказам, указаным у абвінаваўчым заключэнні следчым, а прывялі б свае доказы, сабраныя ў ходзе расследавання. Спрачаліся. Думаю, невінаваты ў такім працэсе не пацярпеў бы.

*— Мікалай Пятровіч, але Закон Рэспублікі Беларусь «Аб адвакатуры» (арт. 17), дае адвакату права самастойна збіраць, замацоўваць і прадстаўляць звесткі, якія датычаць акалічнасцяў справы. Закон прыняты ў 1993 годзе. Чаму дагэтуль адвакаты вымушаны бяздзейнічаць?*

— У Пастанове Вярхоўнага Савета «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адвакатуры» запісана, што гэта норма прымяняецца з моманту, калі будуць унесены адпаведныя змены у Крымінальна-працэсуальны кодэкс. У кодэкс гэтыя змены дагэтуль не ўнесены. А калі так, то няма і размовы аб самастойным зборы доказаў, а значыць, аб спаборнасці працэсу. Узнікае дзіўная сітуацыя: норма закона, якая дазваляе чалавеку актыўна абараняцца, існуе ўжо 5 гадоў, а чалавек, які трапіў у бяду, па-ранейшаму, адчувае сябе бездапаможным, нікому не патрэбным, сумняваецца ў прэзумпцыі невінаватасці.

Але праблема спаборнасці і роўнасці бакоў намнога шырэйшая. Сёння няўзброеным вокам відаць: фігура абвінаваўцы больш значная ў працэсе, чым фігура абаронцы. Прывяду толькі некалькі прыкладаў. Пры вынясенні прыгавору і абароне, і абвінавачанню дадзена права выказаць сваю нязгоду. Пракурор можа вынесці пратэст, а адвакат — падаць скаргу. Паўстае пытанне: калі бакі роўныя ў працэсе, то чаму адзін пратэстуе, а другі скардзіцца? Як нам здаецца, гэтыя словы не раўназначныя. Яны маюць не толькі розную сэнсавую, але і эмацыянальную нагрузку. Таму і на суддзю яны дзейнічаюць па-рознаму. Пратэсту ён удзеліць больш увагі.

Дарэчы, увагай абвінавачанне ніколі не абдзелена. Напрыклад, калі ў працэсе адвакат заявіць хадайніцтва аб далучэнні да справы якіх-небудзь доказаў, суддзя спытаецца ў пракурора, як ён да гэтага ставіцца. Пракурор зробіць заключэнне, ад якога залежыць лёс хадайніцтва. У той жа час , калі пракурор заявіць хадайніцтва, у адваката спытаюцца толькі пра яго думку. Параўнайце: думка, якую можна ўлічваць ці не, і заключэнне, якое гучыць катэгарычна. Ёсць розніца?

У некаторых выпадках права выказаць нязгоду з рашэннем суда дадзена толькі аднаму боку — пракурору. Так, вызначэнне суда аб накіраванні справы на дадатковае расследаванне пракурор можа апратэставаць, а адвакату прынесці скаргу не дазволена.

Часам нават перад пачаткам судовага пасяджэння адчуваецца няроўнасць бакоў (тое, што дазволена Юпітэру, не дазволена быку). Пракурор, скажам, можа дазволіць сабе пагаварыць з суддзёй без прысутных, а адвакат — не. Тады ва ўдзельнікаў працэсу ўзнікае падазрэнне, што ў кабінеце адбываецца абмеркаванне вынесімай на разгляд справы і загадзя прымаецца рашэнне. У гэтым выпадку ўсе балюча рэагуюць на такія дзеянні абвінаваўцы і суддзі. Людзі, якія знаходзяцца ў зале суда, бывае, выходзяць пасля працэсу з пачуццём, што суд праходзіў фармальна, і ўсё было вырашана загадзя.

У цэлым жа няроўнае працэсуальнае становішча абароны і абвінавачання ў многіх нярэдка выклікае недавер да правасуддзя, пачуццё неабароненасці і бяспраўнасці. Таму, калі наша дзяржава сапраўды жадае праявіць клопат аб чалавеку, яму трэба падумаць і аб ступені яго абароны. Неабходна ў корані змяніць крымінальны працэс. Распрацаваць эфектыўны механізм рэалізацыі канстытуцыйнай нормы аб спаборнасці працэсу ў роўнасці бакоў пры ажыццяўленні правасуддзя. Тады яшчэ можна будзе спадзявацца, што ўсталюецца прынцып прэзумпцыі невінаватасці, выпрацуюцца справядлівыя адносіны да чалавека і канстытуцыйны прынцып аб каштоўнасці чалавека знойдзе рэалізацыю.

**Інтэрв'ю падрыхтавала**
**Наталля ДОЎНАР.**



**Магілёўскі дворык.**

Фота Анатоля **КЛЕШЧУКА**.

## КУДЫ ЗНІКАЕ АДЗЕННЕ ПРЫЗЫЎНІКА?

*Па доўгу службы мне даводзіцца размаўляць з бацькамі юнакоў, якія ідуць служыць або ўжо служаць у арміі. Яны крыўдзяцца, што пры дэмабілізацыі камандаванне часці патрабуе, каб салдатам з дому прысылалі цывільнае адзенне. Цікава, а куды дзяваецца тое аддзенне, у якім юнакоў прызывалі? І яшчэ. Адкуль бяруць бабкі ваенную форму, якой гандлююць на рынку ў Полацку?*

**Н. Ярмошын**, г. Полацк.

У прэс-службе Міністэрства абароны паведамілі, што падчас прызыву на ваенную службу юнакі могуць адпраўляць сваё адзенне, у якім яны прыбылі на прызыўны пункт, дамоў або перадаваць яго сваім родным. Праўда, не сакрэт, што многія апранаюць усё старое, і адпраўляць гэтае адзенне дамоў адмаўляюцца. У гэтым выпадку з прызыўніка бярэцца адпаведная распіска, а рызззё знішчаецца. Што датычыць звальнення ў запас ваеннаслужачых і іх «дэмбельскага прыкіду», як запэўнілі ў прэс-службе, хлопцы могуць самастойна выбіраць, у чым ім ехаць дамоў: у ваеннай форме або ў цывільным адзенні, якое, вядома, трэба дасылаць з дому. Аднак камандаванне часці прымушаць нікога не мае права. Чаму на рынках прадаецца ваенная форма? Трэба найперш ведаць, што, уласна, лічыцца такой формай. Гэта калі на ёй ёсць пагоны, пятліцы, іншыя знакі. Калі не, то ў такой куртцы вы можаце смела ездзіць на дачу. Дарэчы, такое аддзенне свабодна прадаецца ў шэрагу спецыялізаваных магазінаў.

# КІРМАШ

## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

**№ 41 (159)**






## УСЁ ПРА АЎТАМАБІЛІ І ДЛЯ АЎТАМАБІЛЯЎ

**Цікавае спатканне чакае наведвальнікаў міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «Аўтабізнес-98», якая сёння адкрылася ў павільёне «Мінксэкспа».**

У яе экспазіцыі пяць секцый — аўтамабілі, запчасткі, касметыка, рамонт і абслугоўванне, аўтааксесуары. У выстаўцы ўдзельнічаюць прадстаўнікі Германіі, Францыі, ЗША, Фінляндыі, Беларусі, Расіі і іншых краін.

Зразумела, самы відовішчны і прыцягальны раздзел той, дзе выстаўлены аўтамабілі. Цікавая дэталь: сёлета аўтамабільная экспазіцыя павялічылася амаль у чатыры разы.

Таксама тут можна будзе ўбачыць прафесійнае гаражнае абсталяванне, розны інструмент, антыкаразійныя матэрыялы і многае іншае, без чаго не абыходзіцца абслугоўванне аўтамашын.

**Леанід ТУГАРЫН.**

## РОЗНАЕ

■ Мяняю 1-пакаёвую кватэру (у дадатак садовы ўчастак з цагляным домікам) у г. Новалукомлі на 1-пакаёвую ў г. Мінску або Жодзіне, торг.
Тэл. у Новалукомлі 3-67-91.

■ Патрабуюцца паслугі ксеракапіравання, танна.
Тэл. 253-92-26.

■ Патрабуецца чалавек з ксераксам. Уся інфармацыя ў паштоўцы.
Звяртацца: 246028, г. Гомель, а/с 149.

■ Прадаецца «VW-Гольф-2», 1,6, дызель — на з/часткі.
Тэл. у Барысаве 4-29-52.

■ Тэрмінова прадам або абмяняю дом (100 кв.м.) на кватэру ў Стоўбцах.
Тэл. у Стоўбцах: 5-33-78 — рабочы, 5-51-49 — дамашні.

■ Калгасу імя М. Горкага Валожынскага раёна патрабуецца інжынер-электрык. Аклад згодна са штатным раскладам.
Тэл. 4-44-32, 4-44-91.

■ Куплю паперу фармату А-4.
Тэл. 253-92-26.

■ Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў прыгарадзе Мінска на Гродна ці Ліду.
Тэл. (8-017) 292-78-90.

■ Куплю жыллё ў Лідзе, Гродне за 6 тыс. у.а. (у дадатак «ВАЗ»).
Тэл. (8-017) 292-78-90.

■ Куплю «МТЗ-82» б/к або абмяняю на л/аўтамабіль.
Тэл. (8-017) 258-34-64.

■ Куплю старыя фотаапараты, мікраскоп, авіягадзіннік, старую вайсковую форму (да 1958 г.).
Тэл. 253-24-41.

■ Мяняю «М-412» 1990 г.в. у выдатным стане на «УАЗ», або прадам.
Тэл. у Міёрскім раёне 2-60-46.

■ Куплю аўтамабіль «Тарпан» і дакументы да яго, танна.
Тэл. (8-0212) 33-85-48.

■ Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў Івацэвічах на 1-пакаёвую ў Гродне.
Тэл. у Івацэвічах 2-12-51.

■ Матэматыка — абітурыентам (Уручча).
Тэл. 269-58-79.

**ЗАО «Энергосфера» ликвидируется.**
Претензии принимаются в течение 2 месяцев с момента публикации объявления.

## ПРАДАЕЦЦА

● Дом з г/пабудовамі ў в. Ціханы Ашмянскага раёна, участак 20 сотак.
Тэл. 2-82-26, пасля 17.00.

● «Аудзі-80» 1987 г. в., бензін, 1,8 л, кафейны металік.
Тэл. у Калінкавіцкім раёне 6-33-08, пасля 19.

● Сячкарня з электрапрыводам.
Тэл. у Мінску 271-22-67.

● Карова цельная, 4 гады, у в. Мігдалавічы Дзяржынскага раёна.
Тэл. у Мінску 271-22-67.

● Карова, ацёл у снежні, узрост 7 гадоў, у в. Петрашэвічы, 46 Дзяржынскага раёна.
Тэл. 4-11-96.

● Натуральны алей какавы, чайнага дрэва, жажоба.
Тэл. 253-92-26.

● Тэрмінова карова 5-га ацёлу (ацёл у студзені 1999 г.) у в. Рудашаны, д. 13 Мядзельскага раёна Мінскай вобл.

● Каровы ў Мінскай вобласці.
Тэл. (8-213) 7-12-02.

● «ВАЗ-2104» 1988 г. в. з ФРГ, прабег 79 тыс. км, растаможаны, у добрым стане. Першапачатковы кошт 3000 у. а., г. Слонім.
Тэл. (8-01562) 5-26-64.

● Кватэра ў драўляным доме ў цэнтры г. Мсціслаўля, цана па дамоўленасці.
Тэл. у г. Магілёве 32-64-04.

● Зруб 5,3x5,3 у пас. Лагішын Пінскага раёна.
Тэл. у Пінску 38-16-68.

● Кватэра 3-пакаёвая, прыватызаваная ў Мазыры. Тэл. 3-47-08.

● Вясельны ўбор, памер 48, атлас, 50 у. а.
Тэл. (8-01591) 2-47-74.

● «МТЗ-80 УК» 1991 г., новы.
Тэл. (8-017) 258-34-64.

● Кватэра 3-пакаёвая кааператыўная ў г. Гродна або памяняю на Віцебск.
Тэл. у Віцебску 33-65-91.

● Трактар «МТЗ».
Тэл. у Мінску 241-19-42.

● Гараж у добрым стане.
Тэл. у Слуцку 4-32-48.

● «ВАЗ-2101» у добрым стане, танна.
Тэл. у Валожыне 5-86-72.

● Прагулачная дзіцячая каляска, імпартная, бэзавага колеру, танна.
Тэл. у Карэлічах 2-02-24.

● Апарат слыхавы завушны «Starkey» (Германія).
Тэл. у Віцебску 33-85-48.

● Саджанцы курыльскага чаю.
Тэл. у Мінску 251-62-79.

● Дом: 3 пакоі, кухня, веранда, ванна, туалет, водаправод, тэлефон, гараж, хлеў, участак 6 сотак у в. Каплічы Калінкавіцкага раёна.
Тэл. 6-32-65.

● Палова новага цаглянага дома ў г. Слоніме (3 пакоі, кухня, газ, вада), маецца хлеў, гараж, участак.
Тэл. у Слоніме 2-70-47.

● «ВАЗ-21043» 1992 г. в., белы.
Тэл. у г. п. Шаркаўшчына 2-10-34.

● «Масквіч-2140» 1985 г. в. у добрым стане.
Тэл. у Светлагорску 3-26-55.

● Дом з г/пабудовамі, вадзяное ацяпленне, участак 6 сотак, сад, тэлефон — у цэнтры Лунінца.
Тэл. (8-01647) 2-23-33.

● Дом у в. Мажа Капыльскага раёна, маюцца г/пабудовы, участак 60 сотак, ці абмяняю на кватэру ў Клецку з даплатай.
Тэл. у Клецку 5-49-41.

● Кватэра 2-пакаёвая, новы дом-дача з г/пабудовамі, участак 25 сотак, самаробны трактар — у г. Старыя Дарогі.
Тэл. 5-40-87.

● Кватэра 3-пакаёвая ў цэнтры г. Мазыра.
Тэл. у Мазыры 5-96-65, пасля 18.00.

● Дом 6x8 з г/пабудовамі, лазня, участак, сад, пчальнік, тэлефоны.
Тэл. у Асіповіцкім раёне 3-75-40.

● «ВАЗ-2105» 1981 г. в. цёмна-сіні, 1400 у. а.
Тэл. у Докшыцкім раёне 2-40-64.

● Трактар «Т-25» з наборам прычапных прыстасаванняў, аўтамабіль «Джэта-2» 1985 г. в.
Тэл. у г. Глыбокае 2-48-11.

● «ВАЗ-21051» 1987 г. в., прабег 120 тыс. км — у г. Глыбокае.
Тэл. (8-02156) 2-36-05.

● Кватэра 3-пакаёвая ў Стаўбцоўскім раёне.
Тэл. 5-42-27.

● «Газель» 1997 г. в., прабег 76 тыс. км.
Тэл.: (8-02158) 2-84-90, 2-85-96.

● «Опель-Амега» 1989 г. в., 2,0 л, цэнтральны замок, велюравы салон (з Нямеччыны) — 4,3 тыс. у. а.
Тэл. (8-01595) 3-91-93.

● Жарэбчык, узрост 1 год; калёсы на гумавым ходу.
Тэл. у Мядзельскім раёне 4-79-77.

● Палова дома з г/пабудовамі ў Навагрудку, маецца вада, санвузел.
Тэл. 2-04-00.

● Трактар «МТЗ-80» з прычэпам і плугам, «Т-25», усё ў добрым стане (г. Глыбокае).
Тэл. (8-02156) 2-48-84.

● «VW-Джэта» дызель, 1,6 л, 1986 г. в., растаможаны — 3000 у. а.
Тэл. у г. Узда 5-57-05.

● Л/а «Нісан-Сані», 1987 г. в., седан, дызель, белы.
Тэл. у Клецкім раёне 4-14-71.

● «ЗАЗ», 40 к. с., рухавік, каробка перадач, укладышы і інш.
Тэл. у г. Маладзечна 5-13-36.

● Гума пярэдняя да «Т-40», новая.
Тэл. у Смалявіцкім раёне 6-10-46, увечары.

● «ВАЗ-21063» 1987 г. в., цана па дамоўленасці.
Тэл. у Шчучынскім раёне 3-67-81, 2-12-36.

● Новы зруб для лазні 3,4x4,4, бэлькі, кроквы, елка. Дастаўка па дамоўленасці.
Тэл. (8-017) 294-96-89.

● Зямельны ўчастак у в. Нарач (15 сотак), 1,5 км ад возера Нарач.
Тэл. у Мядзельскім раёне 4-61-67.

● «Аудзі-100» 1985 г. в., бензін, цэнтральны замок, в. Нарач.
Тэл. (8-297) 4-61-67.

● Матацыкл «ММВЗ-3-212» 1991 г. в. у добрым стане, і такі ж — на з/часткі, 170 у. а.
Тэл. у Шчучынскім раёне 3-67-81.

● Дабротны дом у г. Гарадок Віцебскай вобл., маецца лазня, гараж, агарод (танна) і дом у вёсцы, або абмяняю 2 дамы на кватэру ў гарадах Беларусі.
Тэл. у Віцебску 33-65-91.

● Дрэваапрацоўчы станок «КДС-4», многааперацыйны — цана па дамоўленасці.
Тэл. у Вілейцы 4-63-09.

● Жарэбка, 5 месяцаў, у в. Каралёва Уздзенскага раёна.
Тэл. 3-91-51., Харлап.

● Катэдж 2-павярховы з усімі выгодамі ў в. Пескаўцы Лідскага раёна.
Тэл. 7-63-38.

● «ВАЗ-2101» 1973 г. в. — цана па дамоўленасці.
Тэл. у Докшыцкім раёне 2-49-83, пасля 18.

## Асабістае жыццё

**Аб. 874.** Жанчына 37 гадоў пазнаёміцца з сур'ёзным мужчынам для стварэння сям'і. Маю дачку 13 гадоў (Магілёўская вобл.).

**Аб. 875.** Удавец без шкодных звычак, матэрыяльных і жыллёвых праблем шукае жанчыну 45—52 гадоў для стварэння сям'і.
Пісаць г. Мінск-29, а/с 136.

**Аб. 876.** Дзве маладыя сімпатычныя 20-гадовыя дзяўчыны жадаюць пазнаёміцца з хлопцамі да 25 гадоў без шкодных звычак (г. Капыль).

**Аб. 877.** Пазнаёмлюся з жанчынай для сумеснага жыцця, дзеці не перашкода. Згодзен на пераезд.
Аб сабе: Мікалай, 34/167/70, Скарпіён (Магілёўская вобл.).

**Аб. 878.** Прыгожая стройная жанчына, 36/158/49, марыць знайсці сваё шчасце. Удава, нядрэнная гаспадыня, акуратны, цікавы чалавек, адукацыя вышэйшая, маю добрую кватэру, 2-х дзетак і ўсё неабходнае для жыцця.
Пісаць: 213819, г. Бабруйск-19, а/с 12.

**Аб. 879.** Пазнаёмлюся з хлопцам ва ўзросце 18—21 года для перапіскі.
Аб сабе: 18/164/64, па гараскопу Цялец (Гомельская вобл.).

**Аб. 880**. Пазнаёмлюся з самастойным непітушчым мужчынам, які стане бацькам маім дваім дзецям, а мне — мужам. Мне 37 гадоў, Галіна (Мінская вобл.).

**Аб. 881.** Пазнаёмлюся з жанчынай 45—50 гадоў для стварэння сям'і. Аб сабе: афіцэр запасу, 55 гадоў (Гродзенская вобл.).

**Аб. 882.** Малады хлопец Сяргей, без шкодных звычак, 24 гады пазнаёміцца з дзяўчынай для перапіскі і сяброўства (г. Мінск).

## ВІНШАВАННІ

*Родныя і блізкія ад усёй душы віншуюць з Днём шлюбу* ***Руслана Васільевіча і Таццяну Вячаславаўну ПЛАКСАЎ*** *з г. Нясвіжа.*

*Віншуем з 70-годдзем мілую мамачку* ***Марыю Апанасаўну ЛОНСКУЮ*** *з в. Казацкія Балсуны Веткаўскага раёна.*

*«Без сна ночей твоих*
*прошло немало,*
*Забот, тревог за нас*
*не перечесть.*
*Земной поклон тебе,*
*родная мама,*
*За то, что ты на свете есть».*

**Дзеці, унукі.**

*Віншуем дарагую мамачку і бабулю* ***Клаўдзію Васільеўну МАРКЕВІЧ*** *з в. Прудзяны Шчучынскага раёна з 70-годдзем. Жадаем здароўя, бадзёрасці, радасці і шчасця на доўгія гады.*

**Дзеці, унукі.**

*Віншуем любых маму і тату —* ***Марыю Іосіфаўну і Вацлава Міхайлавіча МІСЮКЕВІЧАЎ*** *з 50-годдзем сумеснага жыцця. Моцнага здароўя, бадзёрасці, дабрыні і радасці вам на доўгія гады.*

**Вашы дзеці,** г. Бярозаўка.

*Віншуем з 45-годдзем* ***Вольгу Пятроўну ЛУГІНЕЦ****. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця.*

**Муж і сын,**
г. Светлагорск.

*Пажаданні моцнага здароўя, поспехаў у справах, шчасця і дабрабыту* ***Леаніду Уладзіміравічу ШКУРЫНСКАМУ*** *з нагоды дня нараджэння.*

**Сябры, пас.** Акцябрскі.

*Віншуем мамачку і бабулю* ***Ганну Пятроўну КАШЭВІЧ*** *з в. Чырвонабярэжжа Лельчыцкага раёна. Жадаем шчасця, здароўя, бадзёрасці.*

**Муж, дзеці, унукі, нявестка.**

*Любую дачушку* ***Наталлю Аляксандраўну ПРЫГАРА*** *віншую з паўналеццем. Жадаю заўжды быць здаровай і шчаслівай, поспехаў у вучобе і сапраўднага кахання.*

**Мама**, г. Плешчаніцы.

*Дарагую мамачку* ***Марыю Пятроўну САМЦОВУ*** *з в. Светлы Гай віншую з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, шчасця, радасці, доўгіх гадоў жыцця.*

**Юлія.**

## БАРЫСАЎ СТАВІЦЬ НОВЫЯ РЭКОРДЫ

**У Барысаве адбыўся 7-мы аўкцыён па продажы аб'ектаў камунальнай уласнасці. У гэты дзень у выніку таргоў было прададзена 5 лотаў. Усяго аўкцыён прынёс бюджэту горада рэкордную суму прыбыткаў — 7 мільярдаў 945,1 мільёна рублёў.**

У выніку вострай барацьбы, у якой удзельнічалі 7 прэтэндэнтаў, за рэкордную ў гісторыі аўкцыёнаў Барысава суму 6,5 млрд. рублёў быў прададзены будынак тарнай базы. У ходзе таргоў першапачатковы кошт будынка ўзрос у 9,5 раза. Знайшоў свайго пакупніка і харчовы склад, які размешчаны ў вёсцы Вуглы Барысаўскага раёна. На гэты раз новым гаспадаром склада стаў не мясцовы прадпрымальнік, а недзяржаўнае прадпрыемства з Мінска, якое заплаціла ў гарадскі бюджэт 993,3 мільёна рублёў.

**Сяргей КУРКАЧ.**



**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі**
**220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

Няўжо двойка?

Фота Васіля ЗЯНЬКО. (г. Стоўбцы)





# «ПОЛЕ ЦУДАЎ» У КРАІНЕ БЕДНЫХ

Шчыра скажу: перадача расійскага канала «Поле цудаў» не падабаецца. З самага пачатку яе з'яўлення. Таму і не гляджу. Але вось ужо некалькі гэтых перадач, трапляючы ў самыя розныя кампаніі ля тэлевізара, мусіў прагледзець. І найперш таму, што вялікую цікавасць выклікала рэакцыя людзей на гэту перадачу, іх настрой, рэплікі, іх паводзіны ля экрана.

Трэба сказаць, што «Поле цудаў» — сапраўды народная перадача. Але акцэнт тут не толькі і не столькі на самой аснове гульні: адгадванні зададзенага вядучым слова. Ёсць, безумоўна, тыя, хто ўслед за ўдзельнікамі перадачы пакутліва шукае варыянты, уступае з-за гэтага ў палеміку. Эмацыянальны полюс перадачы далёка не ў гэтым. Эмацыянальны полюс большасці гледачоў — прызы, падарункі.

Прызы. Яны з'явіліся адначасова са з'яўленнем самой перадачы. І сёння стаўленне да іх гледача я назваў бы трапяткім. Ідзе своеасаблівае прымерванне: а што калі б мне прапанавалі? А што б я ўзяў? Ах, як бы я памыліўся... У прызах, зразумела, рэчы і сумы для большасці гледачоў недасягальныя. Але тэлебачанне дае своеасаблівы эфект прысутнасці, своеасаблівага ўдзелу ў раздачы і атрыманні. Ну і што, што не я атрымаў, ну і што, што я ніколі на тую перадачу нават не траплю ў якасці гледача? Затое хоць на некалькі хвілін, на некалькі імгненняў страпянецца сэрца, заные пад лыжачкай, аслабеюць ногі: што выбраць, як бы не прагадаць? Гэтыя некалькі хвіляў нейк страўліваюць пару. І ўжо не так крыўдна, што сам ты, пабачыўшы суперпыласос, бярэшся потым за анучу і пачынаеш прыбіраць у кватэры, бо старэнькі «Віхар» зламаўся, а адрамантаваць яго каштуе шалёных для тваёй зарплаты грошай.

Падарункі. Я сказаў бы, што па эмацыянальнасці для гледачоў яны ўжо абганяюць у нечым і прызы. Найперш таму, што яны бліжэй.

Зразумела, шчаслівыя ўдзельнікі вязуць на перадачу яе вядучаму лепшае. Але і гэта лепшае ўжо ў нечым блізкае большасці гледачоў. Чалавек бачыць, як вядучы выпівае і прыкусвае рэдкай рыбкай, вяндлінай. На плечы накідваюць вязаную хустку. Гэта ж было раней, бывае зрэдку і ў тваім жыцці, тут эфект прысутнасці яшчэ мацнейшы. А як дзякуюць удзельнікі гульні тым фундатарам, хто адшкадаваў нейкія грошы, дапамог проста даехаць да Масквы. Аж слёзы на вочы навароньваюцца. Вось бы і нам якога фундатара, вось бы і нам крышачку шчасця. А ўжо якога грыбочка ці саленне мы знойдзем. За ўсім гэтым нейк губляецца сама сутнасць гульні. Ды што там — гэта ж вам не інтэлектуалы з «Што, Дзе, Калі?». Гэта народ.

У свой час, прыдумваючы назву для новай перадачы, аўтары, відаць, крыху пасмяяліся і над сабою, і над будучымі ўдзельнікамі перадач. Усё-такі, калі гавораць «поле цудаў», маюць на ўвазе і працяг вядомай песенькі — «у краіне дурняў». А я б сёння дадаў: поле цудаў — у краіне бедных.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# БЕЛАРУСАМ ЁСЦЬ ЧЫМ ГАНАРЫЦЦА

Шаноўны чытач у свой час меў магчымасць пазнаёміцца з энцыклапедыяй «Беларуская мова» (Мінск: «Беларуская Энцыклапедыя», 1994; 655 с., з іл.) і па вартасці ацаніць яе. Але паколькі гэтае выданне вылучана для разгляду ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь 1998 года ў галіне гуманітарных навук, то ёсць неабходнасць яшчэ раз успомніць яго і паказаць у сціслай форме ўсё тое добрае, за што памянёная праца і яе аўтарскі калектыў заслугоўваюць такой высокай ацэнкі.

Энцыклапедыя «Беларуская мова» — першае выданне пра беларускую мову сапраўды энцыклапедычнага характару. Мяркуйце самі: 513 артыкулаў па больш чым дзесяці тэмах! Тут і персаналіі: звесткі пра жыццё і творчасць выдатных майстроў беларускага слова (добра вядомых і мала вядомых), даследаванні айчынных і замежных мовазнаўцаў-беларусістаў, спадчына дзеячаў беларускага асветніцтва. Гэта і даведкі пра стасункі беларускай мовы з іншымі мовамі, і помнікі старабеларускага пісьменства, і звесткі аб таварыствах і выданнях, якія мелі і маюць дачыненне да беларускай мовы.

Гэтае выданне нельга было не заўважыць, бо яно стала падзеяй у навукова-культурным жыцці нашай (і не толькі нашай) краіны. З'явілася яно вельмі своечасова, калі на хвалі Адраджэння шальмавалася і ганьбілася ўсё тое лепшае, што руплі ва напрацоўвалася і назапашвалася за апошнія семдзесят гадоў, якраз у тыя дзесяцігоддзі, за якія беларуская мова развіла сваю вышэйшую форму існавання — літаратурную.

Аўтарам гэтага выдання ўдалося не паддацца кан'юнктурнай палітычнай спакусе, удалося паказаць беларускую мову «як частку энцыклапедыі беларусазнаўства» (А. Я. Міхневіч) у кантэксце сусветнай навукі і культуры. Гэта надало выданню не толькі навуковую энцыклапедычнасць і лінгвакультуралагічную каштоўнасць, але і надзвычайную цеплыню, дабрыню, шчырасць. Са старонак энцыклапедыі глядзіць сама Беларусь — светлая, сціплая, працавітая, цярплівая і багатая сваёй спадчынай, сваімі людзьмі, сваёй мовай.

Мабыць, шматлікія аўтары энцыклапедыі ўклалі ўсю сваю душу, шчыруючы над артыкуламі, бо, нягледзячы на тую лінгвапалітычную разнагалосіцу на старонках прэсы рознай арыентацыі ў пачатку 90-х гадоў, у дадзенай энцыклапедыі пануе толькі навуковы і аб'ектыўны, сапраўды энцыклапедычны падыход, а таму ўсё выданне ўяўляе сабой цэласны і арганічны твор.

Можа калі-небудзь наша краіна будзе мець сродкі і на залатое цісненне на шыкоўным каленкоры, і на каляровыя ілюстрацыі, і на разнастайныя суправаджальныя паказальнікі, але ўжо цяпер мы можам ганарыцца тым, што маем энцыклапедыю, аналагамі якой не могуць пахваліцца шмат якія краіны не толькі блізкага, але і далёкага замежжа.

Мы можам ганарыцца і ўсімі тымі, хто працаваў над гэтай унікальнай кнігай (будучы не вельмі нават упэўненымі, што яна калісьці пабачыць свет), хто, не звяртаючы ўвагі на палітычны гвалт аб «знішчэнні» беларускай мовы і нават беларускага народа, ствараў своеасаблівы помнік беларускай мове і Беларусі ў цэлым.

Хочацца спадзявацца, што Камітэт па Дзяржаўных прэміях па заслугах ацэніць тытанічную і напружаную працу стваральнікаў гэтай цудоўнай і шчырай кнігі.

На заканчэнне не магу не заўважыць, што ў нашай айчыннай, у тым ліку і савецкай, гісторыі навуковыя працы па лінгвістыцы не вельмі часта, калі не сказаць — вельмі рэдка ўдастойваліся дзяржаўных прэмій. І не таму, што не заслугоўваюць. Як лінгвіст, я ведаю, што гэта не так. Хутчэй за ўсё, тут спрацоўваюць нейкія інерцыйныя прычыны, па якіх Слова адыходзіць на другі план у параўнанні з іншымі аб'ектамі даследаванняў. Няхай жа ў аднасінах да энцыклапедыі «Беларуская мова» свой рашаючы голас скажуць добры густ, здаровы сэнс і, галоўнае, — існіна.

**Марыя КАНЮШКЕВІЧ,**
**доктар філалагічных навук, прафесар.**
*г. Гродна.*

# УШАНАВАННЕ МАЙСТРА

**Чарговы літаратурны чацвер у музеі Якуба Коласа прысвячаўся вельмі паважнаму юбілею. Восемдзесят пяць гадоў пражыў, а з іх каля чвэрці прапакутаваў у сталінскіх «здраўніцах» Сяргей Грахоўскі.**

Пра еднасць юбіляра з Коласавым домам, пра чынны ўдзел у яго музейных мерапрыемствах ласкава гаварыла дырэктар гэтай святой установы Беларусі Зінаіда Камароўская. Шыкоўным караваем і задушэўнымі песнямі віталі Сяргея Іванавіча землякі — загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама Анатоль Грэкаў, рэдактар газеты «Прамень» Сяргей Галоўка і самадзейныя артысты.

Праніклёныя словы ў адрас юбіляра гаварылі пісьменнікі Генрых Далідовіч, Мікола Аўрамчык і Уладзімір Скарынкін. Паэты прачыталі і вершы, прысвечаныя С. Грахоўскаму.

Юбіляра павіншавалі загадчык аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Зінаіда Кучар, галоўны захавальнік літаратурнага музея Петруся Броўкі Міхась Пратасевіч, выкладчыца Мінскага педкаледжа Валянціна Раманцэвіч, прадстаўнік Згуртавання беларускіх татараў на Беларусі Ібрагім Канапацкі, сын Якуба Коласа і ўнучка Міхась і Мар'я Міцкевічы.

На вечарыне, вядома ж, гучалі і вершы Майстра. Іх чытала народная артыстка рэспублікі Марыя Захарэвіч і сам аўтар.

— Мне — 65, — сумна ўсміхнуўшыся, сказаў у заключным слове Сяргей Іванавіч. — Дваццаць з майго жыцця выкраслены.

Хай жа ён кампенсуе прапалыя гады! Набярэ яшчэ і яшчэ. Хай дужыцца яму доўга-доўга!

**Сцяпан ІВАНЧЫК.**

## ТОЛЬКІ ФАКТ

Паводле даных Міжнароднага валютнага фонду, за год з Расіі было вывезена сыравіны на 40 мільярдаў долараў — уся выручка апынулася на дэпазітах заходніх банкаў.

На кожныя дзесяць тысяч жыхароў у рэспубліцы прыпадае прыкладна 19 навуковых работнікаў.

У Беларусі налічваецца 1024 дзяржаўныя аптэкі, у тым ліку 553 у сельскай мясцовасці, і 3559 аптэчных пунктаў і кіёскаў. Доля айчыннай прадукцыі ў агульным аб'ёме лекаў, якія прадаюцца ў рэспубліцы, складае каля 20 працэнтаў.

Самая мнагадзетная сям'я ў сталіцы нашай краіны — сям'я Касцюкевічаў — 16 дзяцей.

Толькі ў гэтым годзе ў рэспубліцы па віне пешаходаў адбыліся 1233 дарожна-транспартныя здарэнні, 269 чалавек загінулі, 1000 атрымалі раненні і знявечанні.

# ФІЛЬМАТЭКА

- **«У той краіне...»**
- **«Жыць, як каралі»**
- **«Рызыкуючы жыццём»**

Новую мастацкую кінастужку **«У той краіне...»** стварылі кінамайстры Расіі. Пастаноўку карціны па матывах апавяданняў Барыса Якімава ажыццявіла рэжысёр Лідзія Баброва.

Тая краіна — гэта паўночная руская глыбінка, дзе жыццё сялян за сто гадоў мала змянілася. Хаця і электрычнасць ёсць, і радыё з тэлевізарам, па якому паказваюць «Санту-Барбару» і мексіканскае «мыла», аднак па ранейшаму даставаць з калодзежа ваду «жураўлём» і палошчуць бялізну ў 40-градусныя маразы ў палонцы. У штодзённым клопаце аб хлебе надзённым праходзяць дні вяскоўцаў. Мужыкі п'юць горкую, ухітраючыся рознымі хітрыкамі знаходзіць грошы на бутэльку, гінуць ад яе, радзімай. І на магіле памерлага сябра алкаголікі задаюць філасофскае пытанне: «Куды ідзе чалавек пасля смерці?» І не ведае адзін з іх, што зусім хутка панясе і яго самога любоў да гарэлкі туды, куды ідзе кожны пасля канчыны.

А галоўнаму герою, даглядчыку жывёлы Мікалаю Скурыдзіну, рускаму мужыку з яснымі, нябеснага колеру вачыма, але, на жаль, таксама аматару выпіць, выпадае бясплатная пуцёўка ў санаторый, каб залячыць язву страўніка. Сам Мікалай спачатку супраціўляецца нечаканаму шанцаванню, але пасля ўсё ж згаджаецца, ды толькі дзе там. З-за гэтай пуцёўкі і разгараецца ўвесь сыр-бор...

У Францыі знята каляровая кінакамедыя **«Жыць, як каралі»**. Рэжысёр-пастаноўшчык — Франсуа Вель. Пасля падзення «жалезнай заслоны» Раман прывозіць з Варшавы ў Парыж свайго брата Эдэка, каб той пазнаў нарэшце «салодкае жыццё». Эдэк — апошняя стаўка Рамана, які хоча застацца за мяжой. У час кінафестывалю ў Рэймсе ён выдае брата за ісландскага рэжысёра Нельсена. Нечакана брат так уваходзіць у ролю, што знаёміцца і заводзіць раман з кіназоркай Элізабет Адамс, здымае фільм з яе ўдзелам, і карціна атрымлівае прэстыжную ўзнагароду. А пасля з'яўляецца сапраўдны Нельсен...

Змогуць паглядзець гледачы і амерыканскую мастацкую кінакарціну **«Рызыкуючы жыццём»**. Яе пастаноўку ажыццявіў рэжысёр Джэк Эрсгард.

Уолтэр Вудс, малады амбіцыйны архітэктар з Сіэтла, імчыцца ў Лос-Анджэлес. Ён поўны надзей на лепшую будучыню, бо атрымаў заданне адбудаваць вялікі дом для багатага кліента. Нечакана ў аўтамабільным тунелі на яго напаў вадзіцель грузавіка, але ён застаўся цэлым і прагнуў свой шлях.

Новымі суседзямі Уолтэра сталі дзіўныя людзі: сімпатычная прастытутка, акцёр з Усходняй Германіі і будаўнічы менеджэр з дзівацтвамі.

Серыя дзіўных падзей прывяла Вудса да думкі, што яго нехта праследуе, і ён просіць дазволу ў боса вярнуцца дамоў, але шэф патрабуе завяршыць работу і застацца ў Лос-Анджэлесе.

## ЗДАРЭННІ

# АДНЫ ВЫКАПАЛІ МІНЫ І ГРАНАТЫ...

Адны — гэта трое жыхароў пасёлка Стрэшын, вёсак Новыя Пірэвічы і Малыя Казловічы Жлобінскага раёна, якія, корпаючыся ў сваіх агародах, наткнуліся на цэлы арсенал зброі часоў Вялікай Айчыннай вайны. Так, М. Грыцкоў, выкапаўшы спачатку адну гранату, падумаў, што на гэтым усё і скончылася. Але праз пяць хвілін побач ляглі на зямлю яшчэ тры небяспечныя «цацкі». Тады гаспадар дома пазваніў у міліцыю. Адтуль паступіў сігнал сапёрам, і тыя на вачах у мужчыны выкапалі з агарода артылерыйскі снарад, дзве скрынкі патронаў і 16 гранат.

«Ураджайным» на зброю аказаўся і агарод А. Цімахаўцова, які вельмі здзівіўся і адначасова ўстрывожыўся, калі выявіў на ім некалькі мінамётных мін. А ўсяго іх, пасля таго як тут папрацавалі сапёры, «расло» ажно 18 штук.

Своеасаблівa абышоўся з двума артылерыйскімі снарадамі жыхар Стрэшына, калі выкапаў на агародзе два артылерыйскія снарады: ён паклаў іх каля свайго плота, дзе яны спакойна ляжалі ажно... каля пяці месяцаў. Добра, што ніхто не корпаўся ў іх, а то магла б здарыцца бяда, як гэта мела месца з рабочым саўгаса «Івакі» Добрушскага раёна. Знайшоўшы нейкую «цацку» каля вёскі Хаткі, ён пачаў яе разбіраць. А яна ўзарвалася, параніўшы яго ў руку і галаву.

# ...А ДРУГІЯ СХАВАЛІ ПАТРОНЫ

Гэта — пенсіянер Я. С. са Жлобіна, якому стукнула 68 гадоў і які зрабіў (для чаго?) ладны запас патронаў калібру 5,6 мм. Іх у яго кватэры было выяўлена міліцыяй у ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў ні многа ні мала ажно 3300 штук.

Тое ж самае можна сказаць і пра прадпрымальніка М. Н. з Гомеля, які хаваў у сваім доме такія ж патроны ў колькасці 1650 штук.

Зараз адпаведныя органы цікавяцца, куды гэта яны рыхтавалі патроны.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. **E-mail:** daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.532. Індэкс 63850.
Зак. № 6153.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12